

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ

№ 4 (107) 2014

# а БАЖУР

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

REPORTERS WITHOUT BORDERS
FOR PRESS FREEDOM

# «Рэпарцёры без межаў»:

## Стратэгія рэжыму зразумелая — стварыць умовы, у якіх незалежная журналістыка знікне сама сабой

«Беларускія ўлады працягваюць спробы ўдушэння незалежнага асвятлення падзеяў, настойваючы на тым, што журналісты, якія працуюць на замежныя СМІ, абавязаныя мець акрэдытацыю. Улады таксама нацэліліся на самі замежныя медыя», — гаворыцца ў прэс-рэлізе, распаўсюджаным «Рэпарцёрамі» 26 верасня.

Арганізацыя пераказвае падрабязнасці гісторыі зператрусам у магілёўскага журналіста Аляксандра Буракова і прыгадвае, што гэтыя падзеі супалі з візітам у Беларусь Прадстаўніка АБСЕ па свабодзе СМІ Дуні Міятавіч.

«Разам з сістэматычным удушэннем нешматлікіх крытычна настроеных медыя ўлады распачалі наступ на замежныя СМІ і журналістаў, якія вымушаныя працаваць на іх без акрэдытацыі, бо не могуць атрымаць яе», — заявіў Ёхан Бір, кіраўнік бюро «Рэпарцёраў» у краінах Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі. «Стратэгія рэжыму зразумелая — стварыць умовы, у якіх незалежная журналістыка знікне сама сабой», — дадаў ён.

Арганізацыя прыгадвае ў гэтым кантэксце суд па справе пра таварны знак «Белсата», калі спадарожнікавы тэлеканал быў пазбаўлены права выкарыстоўваць сваю назву на тэрыторыі Беларусі.

Беларусь знаходзіцца на 157-м месцы са 180 краін, што ўваходзяць у Індэкс свабоды прэсы «Рэпарцёраў без межаў».



ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

***Выдавец:*** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
***Перыядычнасць:*** 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.
№ 4 (107) 2014 г.

***Галоўны рэдактар***
Уладзімір Барысавіч Дзюба

***Фота на вокладках —***
Генадзь Верацінскі
Photo.bymedia.net
Архіў «А»

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009 г.

Падпісана да друку 20.10.2014 г.
Дата выхаду 31.10.2014 г.
Фармат 60x84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 600 асобнікаў.
Заказ №
Распаўсюджваецца бясплатна.

***Адрас рэдакцыі:***
***220030, г. Мінск,***
***вул. Камсамольская, 7–32.***
***Тэл./факс: (017) 203-63-66,***
***(029) 126-70-98***
***E-mail: abajur@baj.by,***
***baj@baj.by***
***Сайт: www.baj.by***

Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com

# Жанна Літвіна:

## Улада распачала новую кампанію супраць незалежных журналістаў



Прынятая палітычная пастанова пра новы вiток рэпрэсiй супраць незалежных СМI.

Старшыня «Беларускай асацыяцыі журналістаў» Жанна Літвіна патлумачыла, у чым корань усіх праблем беларускіх незалежных журналістаў, адкуль узялася новая хваля праследаў прадстаўнікоў СМІ з боку ўладаў і якім чынам можна паўплываць на сітуацыю з дапамогай міжнароднай супольнасці.

***— Колькасць выпадкаў судовых разглядаў у дачыненні да незалежных журналістаў з кожным месяцам расце. З чым вы звязваеце такую павышаную актыўнасць уладаў менавіта цяпер?***

— Я б усю сённяшнюю сітуацыю разглядала ў кантэксце сістэмнай і паслядоўнай палітыкі, якая праводзіцца ў дачыненні як да СМІ, так і да асобных журналістаў, матэрыялы якіх немагчыма цэнзураваць, кантраляваць і накіроўваць. Больш за ўсё мы занепакоеныя сітуацыяй, якая склалася з красавіка гэтага года. Тады ў дачыненні да журналістаў нашы ўлады пачалі выкарыстоўваць артыкул 22.9 Адміністрацыйнага кодэкса, а гэта «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ». Уся абсурднасць сітуацыі палягае якраз у гэтым факце. З аднаго боку, людзі прыцягваюцца да адказнасці за працу без акрэдытацыі, а па сутнасці, судзяць іх паводле артыкула аб незаконнай прадукцыі СМІ. Гэты артыкул, на які спасылаюцца як супрацоўнікі сілавых структур, так і прадстаўнікі судовай сістэмы, не прадугледжвае адказнасці за дзейнасць без акрэдытацыі. Гэта значыць, што, па сутнасці, паміж працай без акрэдытацыі і незаконным вырабам і распаўсюджваннем прадукцыі СМІ ставіцца знак роўнасці. Але ж журналіст не займаецца вырабам прадукцыі! Ён толькі рыхтуе матэрыял. У такіх выпадках да адказнасці неабходна прыцягваць рэдакцыю, а не асобнага журналіста.

***— Хто з журналістаў трапіў пад гэтую новую хвалю праследу?***

— Паводле новага артыкула праходзілі і Алесь Дзянісаў за супрацоўніцтва з тэлеканалам «Белсат», і Алесь Залеўскі, які наогул з'яўляецца штатным супрацоўнікам польскага тэлебачання, і Андрэй Мялешка. Гэтыя тры выпадкі былі звязаныя са штрафамі: кожнага аштрафавалі на 4,5 мільёна рублёў. Паралельна былі папярэджанні, якія выносіліся і Юрыю Дзешуку, і Яўгену Скрабцу. Гомельская абласная пракуратура вынесла папярэджанне Юліі Сівец і Мікалаю Бянько.

Але самы недарэчны выпадак, вядома, звязаны з гісторыяй Марыны Малчанавай. Днямі ў Бабруйску адбылося чарговае судовае разбіральніцтва паводле яе справы, і ўражваюць тыя дэталі, якія ўсплылі падчас паседжання. Высветлілася, што ў судовай справе Марына Малчанава знайшла дакументы, якія тычыліся суда над журналістам Алесем Залеўскім,

з пазнакай «Для суддзі». Гэта ўсё тыя факты, якія пацвярджаюць сістэмнасць дзеянняў уладаў.

***— Ці не звязаны пераслед журналістаў «Белсата» са справай супраць самога тэлеканала аб неправамернасці выкарыстання гандлёвага знака?***

— Так, я разглядаю гэта ў адным ланцугу са справай «Белсата». Судовая калегія ў пачатку верасня прыняла пастанову пра неправамернасць выкарыстання ў нашай краіне таварнага знака «Белсат». Гэта даволі складаная гісторыя. Зноў жа, на судзе Марыны Малчанавай высветлілася, што падпалкоўнік міліцыі Радзько ўводзіў маніторынг інтэрнэт-выданняў з мэтай выяўлення выказванняў грамадзян супраць супрацоўнікаў міліцыі. І раптам ён трапляе ў матэрыял Марыны Малчанавай на тэлеканале «Белсат» пра дабрачынны рух. Гэтыя дзіўныя выпадкі толькі даказваюць тое, што ўсё гэта з'яўляецца мэтанакіраваным пераследам незалежных журналістаў.

***— Дарэчы, мабыць, пад гэтую «кампанію» уладаў трапіў і наш сайт...***

— Абсалютна зразумела, што «Хартыя-97» на сённяшні дзень — гэта той СМІ, які немажліва кантраляваць, ім нельга кіраваць і яго нельга цэнзураваць. І таму, магчыма, блакаванне вашага сайта ў Беларусі было адным з пробных крокаў на той выпадак, калі спатрэбіцца больш жорстка абмяжоўваць доступ да інфармацыі.

***— Ці не падаецца вам дзіўным, што сітуацыя стала абвастрацца паралельна з дыялогам паміж Захадам і ўладамі? Напрыклад, менавіта падчас візіту прадстаўніка АБСЕ ў пытаннях свабоды слова Дуні Міятавіч у Мінск адбылося чарговае затрыманне журналіста з адабраннем тэхнікі.***

— Насамрэч тут адсутнасць усякай логікі. З аднаго боку, падчас візіту перад Дуняй Міятавіч адкрываюцца дзверы ў кабінеты міністра замежных спраў, міністра інфармацыі, і паралельна менавіта ў той дзень, як гэта было адзначана ў пратаколах, прайшоў «агляд памяшканняў» у журналіста Аляксандра Буракова ў Магілёве, былі канфіскаваныя камп'ютары, сістэмныя блокі, флэшкі. Гэта значыць, з аднаго боку, нам бы вельмі хацелася, каб імідж Беларусі ўспрымаўся вельмі станоўча, а паралельна ўнутры краіны так несвоечасова адбываюцца гэткія «цуды».

***— Ці ёсць у новай кампаніі ўладаў супраць незалежных беларускіх журналістаў нейкае лагічнае тлумачэнне?***

— Лепш за ўсё гэтую хвалю нагнятання сітуацыі можна было б звязаць з набліжэннем чарговай прэзідэнцкай кампаніі. Аднак я схіляюся да іншага тлумачэння: проста на нейкім узроўні была прынятая палітычная пастанова. А ўвогуле, калі да гэтай праблемы падыходзіць глабальна, яна заключаецца ў нашым заканадаўстве. На працягу некалькіх апошніх гадоў БАЖ увесь час дамагаецца перагляду хоць бы той нормы закона аб СМІ, якая вызначае фармулёўку паняцця «журналіст» у Беларусі. У нас няма паняцця «журналіст», але прапісанае паняцце «журналіст СМІ». Адсюль усе нашы праблемы і ўсе канфліктныя сітуацыі. Бо «журналіст СМІ» — гэта чалавек, які звязаны з канкрэтнай рэдакцыяй нейкімі працоўнымі дамоўленасцямі, гэта штатны супрацоўнік. Такім чынам, выпадае цэлы шэраг людзей, якія не працуюць у штаце, хоць могуць і з'яўляцца журналістамі паводле адукацыі, і займацца журналісцкай практыкай. Аднак згодна з нашым заканадаўствам аб СМІ гэтыя людзі знаходзяцца па-за законам.

***— Ці пад сілу беларускім праваабаронцам і прадстаўнікам НДА паўплываць на сітуацыю з законам аб СМІ знутры краіны?***

— Былі звароты ў гэтым пытанні пасля абрання новага складу Нацыянальнага сходу. Звярталіся мы і ў нашу профільную камісію па правах чалавека, рэлігійных дачыненнях і СМІ. Але пасля кансультацый членаў камісіі з міністэрствам інфармацыі мы атрымалі адказ, што перагляд і нават абмеркаванне недасканалых артыкулаў закона ў нашай краіне проста немэтазгодныя. Аднак паводле логікі, вядома ж, усе гэтыя змены ў законы павінен уносіць менавіта наш Нацыянальны сход.

***— Як міжнародная супольнасць можа паўплываць на змяненне беларускага закона аб СМІ?***

— Я была б толькі радая, калі б падчас перамоваў з прадстаўнікамі еўрапейскіх інстытутаў уздымалася вось гэтае пытанне. Патрэбныя змены ў законе і заканчэнне пераследу журналістаў за працу без акрэдытацыі. Замест інстытута забароны журналісцкай дзейнасці неабходнае ўвядзенне ў краіне інстытута заяўнай формы акрэдытацыі, як ва ўсіх цывілізаваных дзяржавах. На сённяшні дзень гэты закон — эпіцэнтр нашых праблем, і нам вельмі важна, каб да нашага голасу далучыліся галасы еўрапейскіх палітыкаў. Дарэчы, Дуня Міятавіч падчас сваіх сустрэч звяртала ўвагу на гэтую праблему і агучвала неабходнасць адмены інстытута акрэдытацыі ў нашай краіне.

***— Як БАЖ плануе рэагаваць на новую хвалю ціску на журналістаў з боку ўладаў?***

— Цяпер, што да ўсіх гэтых фактаў, БАЖ рыхтуе зварот, які ўжо бліжэйшымі днямі будзе накіраваны ў Міністэрства ўнутраных спраў, у Генеральную пракуратуру, у Міністэрства замежных спраў. За гэтым ужо зусім відавочная цэлая тэндэнцыя пераследу, і мы абавязаны нейкім чынам супрацьстаяць.

***www.charter97.org***

# Заява

## ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» у сувязі з пераследам журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі медыя

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» заяўляе пра неправамернасць пераследу рэпарцёраў, чые імёны і матэрыялы з'яўляюцца ў замежных СМІ. Ціск на такіх журналістаў мае адкрыты характар запалохвання і шантажу і супярэчыць нормам нацыянальнага заканадаўства і міжнародным абавязкам Рэспублікі Беларусь у галіне забеспячэння свабоды распаўсюду інфармацыі.

25 верасня суд Бабруйскага раёна і г. Бабруйска аштрафаваў на 32 базавыя велічыні (4 800 000 рублёў) журналістку недзяржаўнай газеты «Бобруйский курьер». Яе абвінавацілі ў «незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ» (арт. 22.9 КаАП РБ). Паводле пратакола, складзенага падпалкоўнікам міліцыі Сяргеем Рудзько, журналістка «здзейсніла інтэрв'юяванне грамадзянкі... не маючы адпаведнай акрэдытацыі на ажыццяўленне прафесійнай дзейнасці журналістаў замежных СМІ». Нагода для завядзення справы — матэрыял за подпісам Марыны Малчанавай на сайце спадарожнікавага тэлеканала «Белсат».

Асаблівую занепакоенасць выклікае інфармацыя, якую Марына Малчанава паведаміла суду на слуханнях 23 верасня: пры азнаямленні з матэрыяламі сваёй справы яна выявіла ў іх матэрыялы іншай адміністрацыйный справы, аналагічнай па змесце і вырашанай не на карысць журналіста. (Фотакопія ў журналісткі ёсць.) Гаворка ідзе пра справу Алеся Залеўскага, з якога сёлета ў маі Карэліцкі раённы суд пастанавіў спагнаць 4,5 млн рублёў (30 базавых велічынь) за супрацу з тэлеканалам «Белсат». Журналістка небеспадстаўна лічыць, што гэтыя дакументы маглі аказаць ціск на суд, пра што яна і паінфармавала Міністэрства юстыцыі. Аднак адкласці слуханні да атрымання адказу ад гэтага ведамства суд адмовіўся.

Некалькімі днямі раней, 16 верасня, у Магілёве супрацоўнікі Ленінскага РАУС правялі агляды кватэр журналіста Аляксандра Буракова і яго бацькоў. Некалькі супрацоўнікаў органаў унутраных спраў раніцай фактычна ўварваліся ў кватэру А. Буракова на падставе пастановы, падпісанай часовым выканаўцам абавязкаў начальніка ААПП Ленінскага РАУС г. Магілёва У. С. Пугачовым і санкцыянаванай пракурорам г. Магілёва М. Б. Вульвачам. Забраўшы камп'ютарную тэхніку ў журналіста, супрацоўнікі правялі агляд у кватэры яго бацькоў (па іншым адрасе), адкуль таксама вынеслі сістэмныя блокі камп'ютараў.

Падставай для правядзення міліцэйскай аперацыі стала размяшчэнне некалькіх артыкулаў А. Буракова на сайце www.dw.de. Супрацоўнікі міліцыі запэўнілі журналіста, што прэтэнзій да зместу артыкулаў няма, але сам факт размяшчэння матэрыялаў на сайце «Нямецкай хвалі» (руская рэдакцыя якой існуе толькі ў інтэрнэт-варыянце) дае падставы для адміністрацыйнага пераследу. Падаўшы свой матэрыял для публікацыі на замежным сайце, журналіст нібыта парушыў заканадаўства аб СМІ, паколькі не атрымаў акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

Кропка ў гэтай справе пакуль не пастаўлена: 30 верасня журналіста ў чарговы раз выклікаюць у міліцыю, дзе будзе вырашацца лёс гэтай адміністрацыйнай справы.

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» звяртае ўвагу, што палажэнні арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях «Парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі» не ў першы раз выкарыстоўваюцца неправамерна ў дачыненні да журналістаў, якія накіроўваюць свае матэрыялы ў замежныя медыя. Такая практыка парушае як унутранае заканадаўства Рэспублікі Беларусь, так і міжнародныя абавязальніцтвы нашай дзяржавы ў сферы свабоды выказвання меркавання.

Арт. 22.9 КаАП, на які спасылаюцца супрацоўнікі сілавых структур, НЕ ПРАДУГЛЕДЖВАЕ адказнасці за дзейнасць без акрэдытацыі. Прыраўноўванне «працы без акрэдытацыі» да незаконнага вырабу і распаўсюду прадукцыі СМІ неправамернае хаця б таму, што прадукцыю масавай інфармацыі выробляе не журналіст, а рэдакцыя СМІ, і яе распаўсюдам займаецца, зноў жа, рэдакцыя СМІ, а не аўтар. Гэта адназначна вынікае з арт. 1 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі» (пункты 6, 7, 12).



Больш за тое, патрабаванне акрэдытацыі беларускіх грамадзян у МЗС Беларусі для атрымання і распаўсюду інфармацыі парушае Канстытуцыю і міжнародна-прававыя абавязальніцтвы Рэспублікі Беларусь.

Арт. 34 Асноўнага закона гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі пра дзейнасць дзяржаўных органаў, грамадскіх аб'яднанняў, палітычнае, эканамічнае, культурнае і міжнароднае жыццё, стан навакольнага асяроддзя.

Пра гэтае ж права гаворыцца і ў арт. 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП), ратыфікаванага Рэспублікай Беларусь. У адпаведнасці з часткай 2 гэтага артыкула кожны чалавек мае права шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усялякага роду інфармацыю і ідэі незалежна ад дзяржаўных межаў вусна, пісьмова ці сродкамі друку альбо мастацкіх формаў выказвання, альбо іншымі спосабамі на свой выбар.

У адпаведнасці з Асноўным законам карыстанне інфармацыяй можа быць абмежавана толькі для абароны гонару, годнасці, асабістага і сямейнага жыцця грамадзян і поўнага ажыццяўлення імі сваіх правоў.

Дзеянні журналістаў-фрылансераў (г. зн. тых, якія не знаходзяцца ў штаце СМІ і якія прапануюць свае матэрыялы розным медыя, як беларускім, так і замежным) не падпадаюць ні пад адну з дапушчальных падстаў для абмежавання права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд інфармацыі. Больш за тое, пераслед журналістаў за прафесійную дзейнасць і грамадзян за рэалізацыю правоў, гарантаваных Канстытуцыяй, парушае палажэнні Асноўнага закона краіны, узятыя ёю на сябе міжнародныя абавязальніцтвы, падрывае імідж Рэспублікі Беларусь.

Звяртае на сябе ўвагу факт, што правядзенне агляду ў кватэрах А. Буракова і яго бацькоў і забранне аргтэхнікі (гэтаксама як і здзейсненыя ў гэты ж дзень затрыманні трох журналістаў у Мінску) адбыліся падчас візіту ў краіну прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуні Міятавіч. Пытанні акрэдытацыі журналістаў і ўзаемадзеяння прадстаўнікоў прэсы і супрацоўнікаў праваахоўных органаў былі ў цэнтры ўвагі падчас сустрэч Міятавіч з беларускімі службовымі асобамі, аднак, на жаль, гэта не прадухіліла парушэння правоў журналістаў.

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» пратэстуе супраць пераследу ў адміністрацыйным парадку журналістаў, якія размяшчаюць свае матэрыялы ў замежных медыя.

Мы патрабуем:

— каб супрацоўнікі органаў унутраных спраў, іншых дзяржаўных органаў і іх службовыя асобы спынілі адміністрацыйны пераслед журналістаў-фрылансераў і ціск на іх у сувязі з размяшчэннем імі матэрыялаў у замежных СМІ;

— каб упаўнаважаныя службовыя асобы апратэставалі судовыя рашэнні, вынесеныя ў дачыненні да журналістаў па ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях;

— каб суб'екты нарматворчасці Рэспублікі Беларусь прывялі акты заканадаўства Рэспублікі Беларусь у сферы свабоды выказвання меркавання ў адпаведнасць з Канстытуцыяй і МПГПП.

***Прынята Праўленнем ГА «БАЖ» 26.09.2014 г.***

Тэкст заявы ГА «БАЖ» накіраваны 26 верасня Генеральнаму пракурору, міністру ўнутраных спраў, старшыні Камісіі па правах чалавека, нацыянальных зносінах і СМІ Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, а таксама старшыні Вярхоўнага Суда. Да заявы прыкладзены вытрымкі з матэрыялаў маніторынгу ГА «БАЖ» датычна выпадкаў пераследу журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

# Брэсцкім фрылансерам настойліва прапануюць «змяніць прафесію»

**Сярод беларускіх журналістаў, якім у 2014 годзе органамі пракуратуры вынесены папярэджанні за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ, ёсць два фрылансеры з Брэста — Яўген Скрабец і Максім Хлябец. Іх гісторыі ў нечым падобныя, але маюць і адметныя асаблівасці.**



*Алег СУПРУНЮК*

«Цікавасць» да журналісцкай дзейнасці Яўгена Скрабца з боку адпаведных структур з'явілася яшчэ пяць гадоў таму. Тады матэрыялы ў пракуратуру Брэсцкай вобласці трапілі з мясцовага ўпраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі, супрацоўнікі якога ўважліва «маніторылі» сайт Беларускага Радыё Рацыя, вышукваючы там публікацыі за подпісам Скрабца. У КДБ прыйшлі да высновы, што Яўген ажыццяўляе прафесійную дзейнасць журналіста замежнага сродка масавай інфармацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без акрэдытацыі, а пракуратура з гэтымі высновамі пагадзілася. У выніку ў верасні 2009 года брэсцкаму фрылансеру было вынесена афіцыйнае папярэджанне.

Яўген Скрабец адзначае цікавую падрабязнасць: тэкст гэтага папярэджання ўручылі яму ў дзень прызыву на вайсковую службу, а пазней пракурорскі дакумент нават быў падшыты да асабістай справы прызыўніка. Прычым у войска Яўгена, які акрамя працы фрылансерам займаецца актыўнай грамадскай дзейнасцю, забралі, не зважаючы на тое, што хлопец меў сур'ёзнае захворванне спіны. Аднак і паўторная медычная камісія, што збіралася паводле настойлівага патрабавання ваенкамата, прызнала Скрабца прыдатным для службы.

Пасля войска была вучоба ў Польшчы, а калі неўзабаве Яўген вырашыў працягнуць сваю журналісцкую дзейнасць, дык зноў пачаў адчуваць надакучлівую ўвагу з боку праваахоўных структураў. Справа дайшла да таго, што 21 сакавіка 2014 года брэсцкага фрылансера выклікалі ў гарадскую пракуратуру «дзеля апытання». Паводле слоў Скрабца, памочнік пракурора Алена Паўлава, якая рыхтавала адпаведны дакумент, задала два пытанні. *«Яна цікавілася, ці маю я акрэдытацыю як прадстаўнік Радыё Рацыя ў Беларусі, а таксама ці публікаваў я ў якіх-небудзь СМІ матэрыялы, што дыскрэдытуюць Рэспубліку Беларусь, яе ўнутраную і знешнюю палітыку»,* — кажа Яўген. Ён адмовіўся адказваць на гэтыя пытанні, а таксама падпісваць адпаведны пратакол.

Але выглядае так, што для пракуратуры Брэста гэта ўжо было неістотна, бо праз дзесяць дзён, 31 сакавіка, у згаданай установе Скрабцу абвесцілі, што ён зноў афіцыйна папярэджаны «аб недапушчальнасці супрацьпраўных дзеянняў». Папярэджанне тычылася публікацый журналіста на сайце Беларускага Радыё Рацыя. Адметна, што ў пісьмовым выглядзе тэкст гэтага папярэджання ў пракуратуры выдаць адмовіліся. Яўген адразу ж напісаў у пракуратуру заяву з просьбай зрабіць копію папярэджання, неабходную для далейшага абскарджання, аднак дазволу так і не дачакаўся.

Дарэчы, «прыгоды» для Скрабца працягваліся і пасля вынесенага папярэджання: напрыканцы красавіка Яўгена выклікалі ў міліцыю з той жа фармулёўкай — «дзеля апытання». Гэтым разам размова пачалася з таго, што ён нібыта падобны да ўдзельніка бойкі, якая здарылася ў горадзе ў лютым, а пазней у фрылансера ў чарговы раз пыталіся пра супрацоўніцтва з Беларускім Радыё Рацыя.

Яшчэ праз месяц Скрабец быў затрыманы ў Брэсце каля дома, дзе жыве, невядомымі асобамі ў цывільным (пазней высветлілася, што гэта былі супрацоўнікі АМАП). Журналіста прывезлі ў міліцэйскі пастарунак і абвінавацілі ў «дробным хуліганстве» — як шмат каго з апазіцыйных палітыкаў і грамадскіх актывістаў. Суд пагадзіўся са сведчаннямі міліцыянтаў, што даводзілі пра лаянку, нібыта пачутую з вуснаў Яўгена Скарбца, і пакараў яго адміністрацыйным арыштам на 10 сутак.

І гэта, як кажуць, яшчэ не фініш. У жніўні фрылансер вырашыў распавесці, як настойліва заклікалі яго да «супрацоўніцтва» з мясцовым КДБ. Яўген спрабаваў было ўладкавацца

ў аўтобусны парк горада Брэста па атрыманай раней спецыяльнасці — у сектар турызму, маркетынгу і знешнеэканамічнай дзейнасці. Пасля папярэдніх размоваў з кіраўніцтвам аўтобуснага парка Скрабец быў запрошаны на выніковую гутарку, пра якую ён распавядае так: «*Калі прыйшоў на гэтую сустрэчу, мне адразу далі зразумець, што далейшае супрацоўніцтва залежыць ад размовы з двума людзьмі, якія чакаюць у суседнім пакоі — кабінеце галоўнага інжынера. Я адразу здагадаўся, што гэта за людзі, аднак тое была першая мая спроба сапраўды ўладкавацца па спецыяльнасці (бо скончыў універсітэт у Вроцлаве па спецыяльнасці "Турызм і рэкрэацыя"), і ў мяне былі ілюзіі, што гэтыя асобы папросту папярэдзяць мяне — маўляў, праца ў дзяржаўнай установе не мусіць перасякацца з грамадскай ды журналісцкай дзейнасцю. Аднак ілюзіі зніклі, як толькі ўвайшоў у памяшканне. Гутарка была працяглай, і размова з супрацоўнікамі КДБ тычылася шмат якіх сфер дзейнасці (у тым ліку канкрэтных асобаў і сродкаў масавай інфармацыі). Да таго ж хлопцы з ходу пачалі дзяліцца досыць багатай інфармацыяй пра маё жыццё за апошні год, кантакты, паездкі, учынкі і нават пра зусім асабістае. У выніку прагучала прапанова быць з імі на "кантакце", за што атрымаю шмат карыснага, але для пачатку трэба падпісаць некаторыя паперкі: нібыта на выпадак "тэрарызму". Натуральна, я адмовіўся, пасля чаго вярнуўся да дырэктара аўтобуснага парка і распавёў, якое мне "супрацоўніцтва" прапанавалі, але я не пагадзіўся. Дырэктар прамаўчаў і толькі паціснуў руку на развітанне...*»

І хоць падаецца, што гэтая гісторыя толькі ўскосна мае дачыненне да журналісцкай дзейнасці, яна выразна сведчыць, што беларускія фрылансеры адчуваюць пераслед ужо не толькі, калі супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ, але і ўвогуле — калі жадаюць працаваць у нейкай іншай сферы. Фактычна забараніўшы гэтым людзям працаваць у якасці журналістаў, пэўныя структуры ствараюць перашкоды, калі «занадта актыўныя» хочуць рэалізаваць сябе ў чымсьці яшчэ.

Яшчэ аднаму незалежнаму журналісту — Максіму Хлябцу — пракуратура Брэсцкай вобласці сёлета таксама вынесла афіцыйнае папярэджанне «аб недапушчальнасці здзяйснення правапарушэнняў» за тое, што супрацоўнічае з замежным СМІ (з Беларускім Радыё Рацыя) без акрэдытацыі. Максіму даслалі позву, паводле якой ён 11 чэрвеня наведаў установу, дзе старшы пракурор аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Ніна Бахарава ўручыла згаданае папярэджанне, падпісанае намеснікам пракурора Брэсцкай вобласці Аляксандрам Точкам.

З тэксту дакумента вынікае, што доказам супрацоўніцтва журналіста з замежным СМІ пракуратура лічыць два артыкулы, размешчаныя на сайце racyja.com больш чым за год да вынесенага папярэджання — у сакавіку 2013 года. Цікава, што адна з публікацый, якая ўзгадваецца пракуратурай, тычыцца падрыхтоўкі да старажытнага абраду «Гуканне вясны», а другая — святкавання Дня паэзіі.

Варта заўважыць, што на пачатку 2014 года Хлябца таксама выклікалі ў міліцыю — нібыта ў якасці сведкі па адміністрацыйнай справе, распачатай паводле акцыі пратэсту супраць смяротнага пакарання, якая праходзіла ў Брэсце. Аднак размова падчас допыту тычылася зусім не гэтай справы, а працы фрылансера. Як распавёў Максім, міліцыянты казалі, што «ўсё ведаюць» пра яго журналісцкую дзейнасць. «*Мне нават прадэманстравалі фотаздымкі, якія, на іх погляд, пацвярджаюць маю супрацу з Беларускім Радыё Рацыя, зарэгістраваным у Беластоку,* — адзначыў Хлябец. — *Напрыканцы працяглай размовы міліцыянты прапанавалі "супрацоўнічаць" з імі — дзяліцца патрэбнай ім інфармацыяй. На гэта я, безумоўна, адказаў адмовай і паведаміў, што буду распаўсюджваць змест гутаркі ў медыях*».

Максім Хлябец перакананы, што пракурорскае папярэджанне — працяг той самай гісторыі, калі ён не пажадаў ісці на сумнеўнае «супрацоўніцтва» і распавёў пра гэта ў СМІ. «*Можа, было вырашана напужаць мяне яшчэ чым-небудзь — з разлікам на тое, што я спалохаюся, пачну з імі супрацоўнічаць альбо спыню сваю дзейнасць у якасці фрылансера*», — выказаў меркаванне брэсцкі журналіст.

Максім заўважыў, што ціск на фрылансераў і незалежных журналістаў апошнім часам значна ўзмацніўся (пра што сведчыць і маніторынг правоў журналістаў, які ладзіць ГА «БАЖ»).

«*Безумоўна, я б звязваў гэта з прэзідэнцкімі выбарамі, якія маюць адбыцца ў 2015 годзе. Але мне падаецца, што сістэма проста працуе па накатанай схеме, дзе ёсць нейкі план, а незалежных журналістаў ці апазіцыянераў можна беспадстаўна прыцягнуць да адказнасці — "пасадзіць на суткі" ці аштрафаваць. Дзяржава проста зарабляе на гэтым грошы*», — пасміхаецца Максім.

Ён кажа, што ціск і «пільная ўвага» з боку структур, якія не толькі па назве лічацца сілавымі, ускладняе працу і жыццё.

«*Вельмі складана атрымаць акрэдытацыю! Часам баішся падпісацца сваім прозвішчам, бо можаш атрымаць штраф ці папярэджанне. Але працаваць можна, калі па-сапраўднаму гэтага жадаць. Вядома, былі ў галаве думкі з'ехаць з краіны. Калі што, на будоўлі заўсёды месцы знойдуцца. (Усміхаецца.) Але ўсё ж вера ў лепшае яшчэ ёсць,* — прызнаецца калега. — *Дапамагаюць размовы з людзьмі, якія вераць у лепшыя часы і гатовыя змагацца за будучыню. Прычым змагарства — гэта не захоп улады з аўтаматамі. Рабіць Беларусь трошачкі лепшай — гэта цудоўна. А парады калегам? Любіць сваю працу і рабіць яе якасна. Дапамагаць такім жа, як і ты сам*».



Бабруйская журналістка Марына Малчанава супрацоўнічае са СМІ каля трох гадоў. Але за гэты час яе ўжо некалькі разоў спрабавалі прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці за прафесійную дзейнасць. Аднойчы нават зрабілі спробу завербаваць. А зусім нядаўна яе проста шакіравалі паводзіны афіцэра міліцыі..

# Марына Малчанава: «Калі быць журналістам — то толькі незалежным»

## Журналістыка — маё пакліканне

***— Раскажыце, калі ласка, хто вы па адукацыі, чаму вырашылі стаць журналістам?***

— Я з Бабруйска — тут нарадзілася, скончыла школу. Пасля вучылася ў Еўрапейскім Гуманітарным Універсітэце. Вывучала культурную спадчыну і турызм. Паводле адукацыі я — магістр культурнай спадчыны.

У журналістыку я трапіла насамрэч выпадкова. Хоць і кажуць, што нічога не бывае выпадковым. Падчас навучання ў магістратуры працавала ў бабруйскім раённым музеі. І там пазнаёмілася з рэдактарам раённай газеты. Яна і прапанавала мне весці краязнаўчую рубрыку «Родны кут». Вось так усё і пачалося. Потым, праз год, паколькі раённая газета — не тое месца, дзе можна творча і прафесійна развівацца, я пачала шукаць іншыя медыярэсурсы, з якімі можна супрацоўнічаць.

Што цікава, ні ў школе, ні падчас навучання ва ўніверсітэце я нават не задумвалася пра журналістыку. Гэты варыянт увогуле не ўзнікаў у шэрагу магчымых будучых прафесій. Але вось неяк вывела жыццё на гэтую каляіну. Спадзяюся, — шчаслівую.

Зараз я часам адчуваю, што журналістыка — гэта маё пакліканне. Часам — раптам з'яўляюцца нейкія сумненні, бо хочацца працягнуць навуковую працу. Але дагэтуль ніводны занятак не прыносіў мне такога задавальнення, як журналістыка.

***— Такім чынам, па адукацыі вы магістр культурнай спадчыны... Ваша адукацыя дапамагае ў журналісцкай працы?***

— Так, я спецыяліст па культурнай спадчыне. Але не магу сказаць, што гэтая сфера вельмі далёкая ад журналістыкі. Наадварот, мая адукацыя вельмі часта дапамагае мне ў журналісцкіх справах. Тое навучанне, што я прайшла, дазваляе мне крытычна, свабодна думаць і разумець свет ва ўсёй яго разнастайнасці. Я лічу, што атрымала добрую базу, на якой магу далей будаваць як навуковую кар'еру, так і кар'еру журналіста.

А тэхнічным момантам журналісцкага майстэрства можна навучыцца падчас практычнай дзейнасці і на розных курсах. Я пераканалася ў гэтым.

## Дзе няма журналістыкі

***— Калі вы ў якасці фрылансера пачыналі супрацоўнічаць з незалежнымі СМІ, у прыватнасці, з нашым выданнем («Бобруйским курьером». — А. С.), ці ведалі вы пра стаўленне цяперашніх беларускіх уладаў да незалежных журналістаў, пра іх пераслед, запалохванне, рэпрэсіі ды розныя забароны?***

— Я жыву не ў вакууме і, канешне, я ведала пра рэпрэсіі, пра ціск на незалежных журналістаў. Яшчэ калі вучылася ў школе, я вельмі перажывала за лёс Зміцера Завадскага.

Я проста не разумела, як гэта можа здарыцца, — што чалавек знік, і ніхто з уладаў ніяк не рэагуе на гэта... Ужо тады да мяне стала даходзіць, што журналістыка ў нашай краіне — гэта небяспечная прафесія. Канешне, я ведала, што закрываюцца газеты, што, напрыклад, «Белсату», іншым незалежным СМІ замінаюць працаваць і г. д.

Але, калі я зразумела, што хачу паспрабаваць сябе ў журналістыцы, для мяне не паўстала пытання — у дзяржаўных ці незалежных медыя. Ужо тады я ведала, што ў дзяржаўных СМІ журналістыкі як такой няма. Я гэта бачыла на прыкладзе раённай газеты. І працаваць у такім выданні, дзе табе затыкаюць рот, я не хацела. Бо нават калі я вяла краязнаўчую рубрыку, то сутыкалася са спробамі выканкама дыктаваць мне свае правілы: мяне выклікаў начальнік аддзела культуры і казаў, што я пішу не тое, што трэба. Хоць я пісала тое, што ёсць насамрэч.

Між тым я разумела, што там, дзе хлусяць, журналістыкі няма, таму для мяне прасцей было скончыць з імі супрацу, чым ілгаць.

## Пра свабоду думаць

***— Вы кажаце, што пра ўсё ведалі... І што, гэты досвед вас не напалохаў? Ці вы вырашылі, што непрыемнасці могуць адбывацца толькі з іншымі, а з вамі нічога прыкрага не здарыцца?***

— Так, я насамрэч лічыла, што са мной нічога прыкрага не адбудзецца, бо мне здавалася, што рэпрэсіі ўжываюць супраць вядомых і аўтарытэтных журналістаў, «акул» у сваёй справе... Я не бачыла ў сваёй дзейнасці нечага, што можа — і так хутка! — зацікавіць улады.

З іншага боку, ведаеце, маё дзяцінства і першыя класы школы прыйшліся на той шчаслівы час, калі беларусы маглі дыхаць свабодна.

Гэта пачатак 90-х гадоў. Тады ў маю свядомасць было закладзена, што свабода — асноўнае права чалавека, якога яго ніхто не можа пазбавіць. Таму рэпрэсіі з боку ўладаў ніколі не былі і не будуць вырашальным фактарам для мяне ў сітуацыі выбару. Я ім проста не дазволю пазбавіць сябе таго, што не яны мне далі, — свабоды думаць і выказваць свае думкі, свабоды выбіраць сабе прафесію і месца працы.

## Выбар

***— Пасля ўсяго, што з вамі за апошнія месяцы адбывалася (пераслед, спробы прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці за асвятленне масавага мерапрыемства, спроба вярбоўкі, грубасць афіцэра міліцыі...), — не шкадуеце пра выбар свайго прафесійнага шляху — шляху незалежнага журналіста?***

— Па-першае, калі быць журналістам — то толькі незалежным. І па-іншаму не можа быць. Калі залежны — гэта ўжо не журналіст, а прапагандыст, піяршчык і што заўгодна іншае.

А што датычыць таго, ці не шкадую, што выбрала незалежную журналістыку? Не. Журналістыка — гэта цікава. Гэта магчымасць пазнаваць новых людзей, гэта заўсёды новыя ўражанні, шмат новых спраў...

Канешне, я задумваюся пра цану, якую плачу за гэтую працу, я не магу гэтага не заўважаць, — вядома, гэта непрыемна і крыўдна.

## Прафесійны экстрым...

***— Што кажуць вашыя родныя, сябры, ці адчуваюцца разуменне, падтрымка з іх боку?***

— Не ўсе мае сябры разумеюць, навошта мне гэты «экстрым» спатрэбіўся. Тым не менш падтрымку я адчуваю ад усіх. У сям'і — таксама. Муж мяне падтрымлівае, хоць разумее, што праз маю дзейнасць праблемы можа мець і ён.

***— Наколькі штодзённы ціск і запалохванне перашкаджаюць вашай прафесійнай дзейнасці, задумам, творчаму развіццю. Наколькі гэта прыгнятае псіхалагічна, пазбаўляе магчымасці планаваць асабістае жыццё?***

— У некаторым сэнсе сапраўды перашкаджае. Бо пачынаеш задумвацца пра такія рэчы, пра якія нармальны чалавек у нармальнай, здаровай краіне не думае.

Напрыклад, што за табой сочаць, што да цябе могуць прыйсці і зрабіцьператрус... Часам адчуваеш сябе параноікам. Раздражняе гэткае самаабмежаванне свабоды, бо паўсюль чуеш, што лепш па тэлефоне лішняга не казаць, і сапраўды пачынаеш думаць, што гаворыш. І гэта ўсё ненармальна...

А працы і рэалізацыі задумаў перашкаджае не ціск, а ўвогуле ўся нашая сістэма. Бо журналіст працуе з людзьмі. А людзі ў нас баяцца выказваць думкі незалежным СМІ. Таму часта немагчыма поўнасцю раскрыць нейкую тэму, бо з табой не хочуць размаўляць, цябе баяцца, цябе некуды не пускаюць, не даюць акрэдытацыю…

## Мяне трымае сям'я

***— Пастаянна працаваць у стрэсавых умовах, калі за табой палююць, мякка кажучы, няўтульна. Ці не ўзнікае жадання змяніць прафесію, можа, з'ехаць за мяжу, як робяць тысячы адукаваных маладых беларусаў?***

— Шчыра кажучы, такія думкі ўзнікаюць. Але на роднай зямлі мяне трымае мая сям'я.

Што да працы, то ў Беларусі, канешне, з пэўнага боку цікава працаваць, бо ў нашым грамадстве шмат праблем, якія трэба закранаць, шмат таго, пра што трэба пісаць, багата з'яў, якія трэба даследаваць.

Але, калі не бачыш перспектыў і выйсця з таго кола, у якім мы апынуліся, пачынаеш думаць пра тое, каб з'ехаць. Бо хочацца дыхаць вольным паветрам, адчуваць сябе свабодным чалавекам.

Ведаеце, гэтым летам я вельмі востра адчула — у Еўропе хоць і не рай зямны, але там краіны, гарады, вёскі, кварацей, уся жыццёвая прастора ствараецца сапраўды для ўтульнага існавання людзей. У нас жа гэтая прастора — для ўладаў, для выканкамаў, ідэолагаў, сілавікоў, для сістэмы. Але не для людзей.

У нас усё нельга, усё забаронена. І грамадства гэта прымае. А прымаючы такое, людзі самі сябе знішчаюць. І вось гэта насамрэч перашкаджае — і развівацца, і жыць, — калі нават людзі навокал гатовыя цябе з'есці за тваю адметную пазіцыю.

Слушна сказаў некалі Алесь Адамовіч: мы ўсе ў нашай краіне — рабы страшнай пачвары — сістэмы. І вось ад гэтай пачвары хочацца збегчы. Бо яна на цябе ўплывае. Я не ведаю, як гэта патлумачыць, але ты гэта адчуваеш на сабе — усю гэтую сацыяльную пасіўнасць, нават безвыходнасць, што ціснe на цябе з усіх бакоў у Беларусі.

## Пра інтэрнэт-журналістыку

***— Вы пішаце для сайтаў, робіце навінавыя ролікі... Ці вызначыліся — пасля трох гадоў працы, — якая журналістыка вам больш даспадобы?***

— Вось не ведаю, што мне бліжэй… (Смяецца.) Што да тэлевізійнай журналістыкі, то мне тут яшчэ вучыцца і вучыцца. Мо, як будзе больш досведу, тады зразумею, што мне больш падабаецца і што ў мяне лепш атрымліваецца. Пакуль што, відавочна, — інтэрнэт-журналістыка. Але час пакажа, што будзе далей.

***— Ужо каля года вы ў якасці карэспандэнта супрацоўнічаеце з «Бобруйским курьером» (дарэчы, на працягу доўгага часу — адзіным незалежным СМІ ў рэгіёне, таму ягоны лёс такі ж, як ва ўсіх недзяржаўных выданняў: мы перажылі забароны, абмежаванні, пераслед, рэпрэсіі...). Што вам дало гэтае супрацоўніцтва, ці навучыла чаму-небудзь? Як наогул вы ацэньваеце гэты этап вашай працы ў журналістыцы?***

— Гэта цікавы і карысны час, які даў мне новы досвед і мноства прыемных знаёмстваў. Мне падабаецца працаваць у выданні, якое не баіцца казаць праўду, падабаецца быць у калектыве дасведчаных журналістаў і проста добрых людзей.

## Пра інцыдэнт ва УУС…

***— Прыгадаем непрыемныя падзеі, якія здарыліся з вамі зусім нядаўна... Раскажыце, калі ласка, што менавіта адбывалася ў кабінеце дазнаўцы, падпалкоўніка УУС Бабруйскага гарвыканкама Сяргея Рудзько 4 верасня 2014 года, калі вы прыйшлі да яго па позве.***

— Пасля складання на мяне адміністрацыйнага пратакола *(за публікацыю на сайце «Белсата». — А. С.)* я хацела зрабіць копіі матэрыялаў справы, але Сяргей Рудзько не дазволіў мне гэтага.

Тады я пачала рабіць выпіскі ад рукі. Што таксама, відавочна, не падабалася Рудзько: ён пастаянна гаварыў, што ў мяне засталося 10–15 хвілін, а потым у яго нібыта заканчваецца працоўны дзень. Калі ж я скончыла рабіць выпіскі, ён выхапіў у мяне гэтыя паперы з рук. Я паспрабавала забраць іх назад, і тады ён падхапіўся і пачаў заломваць мне рукі.

Я спалохалася, выбегла ў фае, сказала дзяжурнай, што адбываецца. Тая толькі паўсміхалася ў адказ...

Рудзько ж тады казаў, што я хацела парваць матэрыялы справы, таму ён, маўляў, быў вымушаны выкарыстаць сілу. Я патрабавала, каб ён аддаў мне мае паперы. Рудзько ў адказ — у мяне нічога няма, маўляў, не ведаю, пра што вы кажаце. Але я бачыла, што ён трымаў паперы на каленях. Я абышла стол, паклікала сваю сястру з фае, каб яна была сведкай, што Рудзько забраў мае выпіскі.

Тады ён кінуў аркушы паперы пад стол. І калі я паспрабавала іх падняць, зноў накінуўся на мяне...

Забраць паперы атрымалася ў маёй сястры, тады Рудзько пачаў і яе хапаць за рукі. Але, паколькі гэта было ўжо ў фае, ён вымушаны быў адпусціць нас. Сказаў толькі, што думаў, быццам я ягоныя дакументы забрала, таму ён быў вымушаны так сябе паводзіць *(даволі неадэкватна і незаконна. — А. С.)*.

Растлумачыць паводзіны Сяргея Рудзько я не магу. Відавочна тут адно — міліцыя ў нас лічыць сябе ўсёмагутнай. Дзе межы, — многія з супрацоўнікаў органаў унутраных спраў не ведаюць. Ім усё адно, хто перад імі — мужчына ці жанчына, — яны гатовыя кожнаму рукі заломваць — і не толькі, што не раз ужо даказвалі.

Брыдка і прыкра, што тыя, хто мусіць нас абараняць, нападаюць на нас, парушаюць закон і нават прысягу…

## Знішчыць актыўнасць

***— Як вы расцэньваеце — цяпер — сітуацыю, што з вамі адбываецца? І тое, што адбываецца з незалежнай журналістыкай у Беларусі — у цэлым?***

— Тое, што са мной адбываецца, — гэта спроба напачатку знішчыць актыўнасць і жаданне працаваць.

Я для бабруйскіх уладаў — чалавек новы. Я думаю, таму яны і ўзяліся за мяне ў гэтым годзе. І гэтым сваім ціскам яны хочуць прымусіць мяне сысці, намагаюцца пераканаць, што лепш пашукаць сабе нешта спакайнейшае і больш бяспечнае.

Што датычыць незалежнай журналістыкі агулам, — беларускія ўлады ўжо даўно імкнуцца яе цалкам знішчыць, і гэта ўсім вядома. Але найбольш трагічна нават не гэта, а тое, што самі журналісты ў Беларусі, нават у некаторых прыватных выданнях, пагаджаюцца на такі стан рэчаў, — баючыся страціць працу, яны пішуць тое, што ім скажуць, проста хлусяць людзям, становяцца залежнымі ад чыноўнікаў...

***— Калі меркаваць па маніторынгу БАЖ, ціск на незалежных журналістаў у апошні час узмацніўся. Чым, на вашу думку, гэта можна растлумачыць? Ці не звязана гэта з падрыхтоўкай да чарговых прэзідэнцкіх выбараў, якія павінны адбыцца ў 2015 годзе?***

— Так, канешне, гэта відавочна, што перад выбарамі ўлады імкнуцца пазбавіць людзей магчымасці атрымліваць хоць якую альтэрнатыўную інфармацыю і незалежныя меркаванні.

Улады ўсё ж такі баяцца, што людзі пачнуць думаць і рабіць высновы, а падштурхнуць іх да гэтага можа толькі праўдзівая і поўная інфармацыя пра тое, што насамрэч адбываецца ў краіне. Уладам не патрэбна, каб людзі ведалі праўду і разважалі над ёю.

*Гутарыў Анатоль Санаценка*

*Павал НАВАЦКІ,*
*намеснік галоўнага*
*рэдактара*
*штодзённіка*
*«Gazeta Prawna»*

# Журналісты застануцца апорай грамадзянскай супольнасці

Чаму ты бедны? Таму што дурны. А чаму дурны? Таму што бедны, — гавораць разумныя людзі. Як будзе выглядаць свет праз некалькі гадоў, праз некалькі дзесяцігоддзяў, калі ўменне чытаць і асэнсоўваць прачытанае будзе выключнай рысай інтэлектуалаў? Як захаваць традыцыю свядомага чытання тэкстаў, якія нясуць у сабе каштоўнасці пазнання?



**«Мы страчваем нашых чытачоў не таму, што не пішам для іх, а таму, што не звяртаемся да іх і не інвестуем у тое, каб іх зразумець».**
Джым Чышольм, кансультант

На тэлебачанні ўсё большае значэнне набывае карцінка, інтэрнэт усё часцей прапануе пасіўнае спажыванне інфармацыі: шмат карыстальнікаў адмаўляюцца ад удумлівага азнаямлення, іх задавальняе выключна візуальны, павярхоўны «марафон» у прагляданні здымкаў, мемаў, фільмаў. «Скануючы» назвы артыкулаў у інтэрнэт-сэрвісах, людзі толькі аглядаюць падзеі і не імкнуцца зразумець адрасаваны ім сэнс. І было б памылкай суцяшацца тым, што інтэрнэт-карыстальнікі кніг, газет і часопісаў чытаюць больш, чым напярэдадні з'яўлення сусветнай сеткі www. Бо толькі невялічкая частка «ўгрызаецца» ў сэнс паведамлення, а большасць засвойвае выключна тое, што шукае, аднак далёка не заўсёды.

Мы жывём у імклівы час, пад грузам дзясяткаў тэлеканалаў. Я сяджу ў крэсле стаматолага, а над маёй галавой вісіць экран з рознай рэкламай, унізе бяжыць мігатлівы радок з навінамі. Здаецца, і пісаць я павінен абрыўкамі сказаў, усяго толькі сігналізуючы пра навіны. На гарадскім транспартным прыпынку, у аўтобусе ці ў метро смартфон ці планшэт у руках забяспечваюць бесперапынны паток навінаў, які жыве з намі пастаянна.

Характэрная сцэнка ў транспарце. Людзі чытаюць газеты, часопісы і кнігі і з планшэта, і з iPhone. Дзесяць-пятнаццаць ці крыху болей хвілін у дарозе на тое, каб атрымаць паведамленні — важныя, мімалётныя ці службовыя. Побач сядзяць два падлеткі-старшакласнікі, карыстаючыся планшэтам iPad. Яны без разбору, зусім бяздумна клікаюць па іконках на экране. І гэта — сённяшнія ці будучыя адрасаты сенсацыйнай

балбатні з прымешкай эмоцый у вірлівым патоку інфармацыі.

У інтэрнэце добра прыжыліся мемы, якія набылі асаблівую папулярнасць сярод падлеткаў. Гэта спроба кантакту са светам, які патрабуе інтэрпрэтацыі фактаў. Пакаленне, якое расло з ноўтам на каленях, каму бацькі яшчэ некалькі гадоў таму набывалі доступ у інтэрнэт (бо «дзіця вучыцца і выконвае хатнія заданні»), вельмі неаднароднае. Але гэты свет патрабуе ад іх усё менш і менш, і тэхніка становіцца ўсё менш складанай у карыстанні. Ці знойдзецца ва ўсіх гэтых варунках месца ў будучыні для медыяў і журналістаў?

## Лічбавая непісьменнасць

Мы захапляемся, калі бачым малечу, якая лёгка карыстаецца iPad яшчэ да таго, як навучыцца самастойна складаць словы і чытаць. Хаця карыстанне смартфонам ці планшэтам у дадзенай сітуацыі — усяго толькі націсканне пальцамі на іконкі. І тое, што гэта здольныя зрабіць нават двухці трохгадовыя дзеці, цяжка лічыць праявай вялікіх здольнасцяў. Ці не праз гэта можа пачацца вяртанне ў эпоху малюнкавага пісьма? Вынікі даследаванняў узроўню ведаў польскай моладзі (14–18 гадоў), якія праводзіў фонд Orange, паказалі, што толькі 2 % даследаваных карысталіся лагічнымі апаратарамі, шукалі інфармацыю з дапамогай пашуковіка Google. Гэта значыць, што яны не ўпісвалі радкі слоў бяздумна, а звужалі іх двукоссямі ці зваротамі «and» ці «not». Абсалютная меншасць карыстальнікаў інтэрнэту з'яўляюцца аўтарамі і актыўна рыхтуюць матэрыялы для публікацыі ў сеціве: музыку, здымкі, малюнкі, тэксты, відэа. І гэта тады, калі большасць падлеткаў ужо зарэгістраваныя на Facebook, які стаў галоўным інструментам каардынацыі іх штодзённых дзеянняў. Нягледзячы на тое што моладзь актыўна рэгіструецца ў сеціве, мала хто з маладых людзей насамрэч актыўна пашырае свае веды і досвед.




Лічбавая кампетэнцыя вышэйшага ўзроўню — назавем яе так — неабходная для свядомага ўспрымання і разумення сэнсу. Калі ў карыстальнікаў яе няма, то і попыту на змест не будзе. Таму прагнозы на будучыню для медыяў і для саміх журналістаў далёка не аптымістычныя. Сённяшнія вучні ў большасці сваёй здольныя толькі спажываць, ахвотней за ўсё яны робяць гэта, калі праглядаюць відэа на YouTube альбо здымкі на Facebook і Instagram. Такія дзеянні не патрабуюць асабістага ўнёску, а карыстанне гэтымі парталамі не заклікае да нейкіх інтэлектуальных высілкаў. То бок расце пакаленне, якое самастойна не здольнае рабіць нічога, адно толькі прызвычаенае да гульняў і карыстання сацыяльнымі сеткамі. Гэта кепскі прагноз на будучыню для журналістаў і толькі знешне добры з пункту гледжання сусветных інтэрнэт-брэндаў. Карыстальнік жа масавых, нескладаных прадуктаў, магчыма, і з'яўляецца добрым спажыўцом, але адначасова ён з'яўляецца і горшым супрацоўнікам. Ці будуць патрэбныя пакаленню лічбавых абарыгенаў публікацыі, якія рыхтуюць журналісты? Тут дакладна ўзнікне праблема, калі раптам не здарыцца тое, што і павінна быць галоўным абавязкам выдаўца, які не хоча рабіць толькі бізнес, а пры ажыццяўленні сваёй дзейнасці нясе яшчэ і нейкую місію. Выдаўцы, якія ўсё часцей прысутнічаюць на лічбавых каналах, павінны думаць таксама і пра адукацыю чытачоў. Вучыць іх медыйнасці, то бок разуменню медыяў, каб яны ўмелі ўспрымаць і асэнсоўваць факты, былі здольныя ацаніць журналісцкую працу...

## Крызіс прэсы працягваецца?

Традыцыйныя медыя пачалі мяняць бізнес-мадэль і адыходзіць ад таго, каб зарабляць грошы на кліках у рэкламныя банеры; дарэчы, банеры становяцца ўсё больш таннымі, іх эфектыўнасць зніжаецца. Гэтая мадэль фінансавання дзейнасці робіцца ўсё менш прыцягальнай, паколькі ў інтэрнэце назіраецца інфармацыйная перанасычанасць. Толькі ў 2012 г. кожную хвіліну на YouTube выкладалася як мінімум 20 гадзін фільмаў. Каб прагледзець тое, што было размешчана толькі ў 2012 г., патрэбныя сотні гадоў, гэта нашмат больш, чым карыстальнік у стане прагледзець да канца жыцця. У 1996 г. сусветная сетка www налічвала каля 23 500 сэрвісаў і толькі 39,6 мільёнаў карыстальнікаў. У сярэднім на адзін сэрвіс прыходзілася 1985 карыстальнікаў. У 2012 г. існавала каля 255 мільёнаў сэрвісаў, а карыстальнікаў было 1,96 мільярда — гэта азначае, што на адзін сэрвіс ужо прыходзілася каля 7,7 мільёна карыстальнікаў.

Калі ж друкаваныя газеты ў тым фармаце, які існуе сёння, стануць неістотным прадуктам на медыйным рынку? Спецыялісты прадказваюць, што

апошняя газета ў традыцыйнай форме выйдзе ў ЗША ў 2017 г., у Вялікабрытаніі — у 2019 г., а ў Польшчы — у 2025 г. Ва ўсім свеце, паводле экспертаў, свае апошнія дні газеты будуць дажываць прыкладна да 2040 г. Ці эксперты памыляюцца? Калі прасачыць развіццё падзей з таго моманту, калі ў нашым штодзённым жыцці з'явіліся мабільны тэлефон, планшэт, смартфон і інтэрнэт, цяжка пазбавіцца думкі, што такі сцэнар не рэальны.

У 2004 г. выйшаў фільм «Epic 2014», даступны на платформе YouTube, якая належыць карпарацыі Google. Гэта васьміхвілінная футурыстычная стужка, знятая Робінам Слоанам і Матам Томпсанам, абапіраецца на прэзентацыю, падрыхтаваную інстытутам Poynter. Яна прадстаўляе гісторыю, якую нібыта расказвае Музей гісторыі медыяў праз 10 гадоў, то бок у 2014 г. Як адбыліся сапраўдны інфармацыйны выбух, імклівы росквіт пашуковіка Google News і шматлікіх іншых тэхналогій, названых разам Web 2.0, блогаў і сэрвісаў сацыяльных медыйных сетак. Даволі сумныя, з пункту гледжання традыцыйных выдаўцоў, змены ў методыцы спажывання медыйнага прадукту, змена ўладальнікаў. Гісторыя заканчваецца тым, што Google набывае выдавецтва, якое раней належала «New York Times» і якое паступова слабее. Тут вядомая амерыканская газета — як сімвал усіх традыцыйных медыяў, якім надыходзіць канец...



## Змены на медыйным рынку

На пачатку новага тысячагоддзя пашуковік Google быў маладым прадуктам, а «NYT» — буйным выдавецтвам, якое, нягледзячы на выразныя сігналы змен у захаванні аўдыторыі чытачоў, нядрэнна зарабляла на друкаваным выданні. Пэўныя сцэнары ў той час здаваліся нерэальнымі... У 2013 г. Джэф Бэзас (Jeff Bezos), заснавальнік і ўладальнік Amazon (найбуйнейшай у свеце крамы online, якая знаходзіцца ў Сіэтле), за 250 мільёнаў долараў купіў выдавецтва, якое было ўладальнікам штодзённіка «Washington Post». Што гэта? Выключна фанабэрыя Бэзаса ці, хутчэй за ўсё, свядомы крок, разлічаны на тое, каб атрымаць уплыў на вядомых палітыкаў і чыноўнікаў, уплыў на лабістаў, каб яны не абмяжоўвалі развіццё галіны IT у ЗША?

З 1980-х гадоў вашынгтонскі штодзённік кантралявала сям'я Мэер Грэм (Meyer Graham). Заснаваны 136 гадоў таму «WP» — разам з «New York Times» і «Los Angeles Times» — з'яўляецца адным з найбольш значных друкаваных выданняў, якія фарміруюць грамадскую думку ў Амерыцы. Журналісты Боб Вудвард і Карл Бернстайн раскрылі тут у 1970-я гады «Уотэргейцкую аферу», якая скончылася сыходам з пасады прэзідэнта Рычарда Ніксана. «WP» перажываў сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці, сістэматычна зніжаўся яго наклад — з 800 тысяч асобнікаў 20 гадоў таму да 447 тысяч. І гэта не адзіныя змены на рынку ўладальнікаў. Руперт Мёрдак (Rubert Murdoch) набыў канцэрн «Dow Jones&Co» ў выдаўца «Wall Street Journal» за 5 мільярдаў долараў, а Джон Генры — уладальнік «Boston Red Sox» — набыў «Boston Globe» за 70 мільёнаў долараў.

Як вядома, заснаваны Б. Ч. Форбсам у 1917 г. часопіс «Forbes» прысвечаны бізнес-тэматыцы, як і ўсе звязаныя з ім інтэрнэт-старонкі. Выданне выставілі на продаж восенню 2013 г. Як і ў выпадку з «WP», нагодай стала зніжэнне платнай дыстрыбуцыі друкаваных выданняў, то бок спад прыбыткаў. 7 гадоў таму прадалі чарговую частку, а 45-адсоткавы пакет за 264 мільёнаў долараў набыў фонд Elevation Partners, саўладальнікам і генеральным дырэктарам якога з'яўляецца славуты спявак гурта «U2» Бона (Bono).



Пасля крызісу, які наступіў у 2000–2001 гг., калі на амерыканскай біржы лопнуў інвестыцыйны пухір, калі шмат якія кірункі інтэрнэт-бізнеса аказаліся пустым яечным шкарлупіннем, прайшло больш як 10 гадоў. Неўзабаве выдаўцы зноў пачалі паволі набіраць свежае паветра. Ідэя актыўнасці ў свеце online праз бясплатныя публікацыі матэрыялаў, якія перадрукоўваюцца са штодзённых газет, ужо некалькі гадоў запар трансфармуецца ў новую бізнес-мадэль. Пасля таго як карыстальнікі гадамі прызвычайваліся да таго, што за чытанне ў інтэрнэце не трэба плаціць, выдаўцы вырашылі адкрыта заявіць пра тое, што за доступ да тэкстаў, фотаздымкаў ці відэа яны чакаюць аплаты. Ужо ў 2013 г. 12 з 20 найбуйнейшых газет у ЗША ўвялі на сваіх інтэрнэт-старонках рознага тыпу paywalle — платную падпіску. Як вынікае з даследаванняў амерыканскай Школы журналістыкі ў

Місуры (Missouri School of Journalism), ажно 59 % з лакальных газет у ЗША, накладам да 5 тысяч асобнікаў кожная, увялі на сваіх інтэрнэт-сайтах аплату рознага кшталту. Падобныя працэсы адбываюцца і ў Еўропе, дзе не толькі аўтарытэтныя штодзённікі і штотыднёвікі, а нават медыя тыпу таблоідаў (у Вялікабрытаніі — «The Sun») гавораць інтэрнэт-карыстальнікам: за матэрыялы мы чакаем аплаты. Славацкі стартап «Piano Media» паспяхова ўвёў свае paywalle-рашэнні ў Славакіі, Славеніі і Польшчы, а наперадзе ў яго — чарговыя рынкі.

## Будучыня за мабільнымі публікацыямі?

Упарадкаванне музычнага рынку ў сеціве, то бок ідэя Сціва Джобса наконт крамы iTunes і адначасовага існавання бясплатнай праграмы, якая транслюе аўдыя- і відэафайлы, а таксама з'яўленне некалькі гадоў таму планшэта iPad надало адвагі і выдаўцам. Яны рэальна пачалі думаць пра тое, што, магчыма, можна знайсці бізнес-мадэль, якая б адпавядала патрабаванням новых пакаленняў. Карыстальнікі навучыліся набываць музыку ў інтэрнэце, а паколькі з'явілася нешта новае паміж камп'ютарам і смартфонам — падаецца, святло ў тунэлі ўсё ж ёсць. Сёння ў багатых краінах з высокім узроўнем цывілізацыйнага развіцця атрыбутам першага выбару (найчасцей ужываным) стаў смартфон. Хутчэй за ўсё, у 2015 г. ва ўсім свеце больш матэрыялаў па каналах digital будзе спажывацца праз смартфоны і планшэты, чым праз камп'ютары. Без смартфона мы не абыходзімся, тут мы праглядаем пошту, чытаем навіны, нешта купляем.

На жаль, смартфон — гэта сур'ёзнае выпрабаванне для традыцыйных медыяў. І яго выкарыстанне ўжо не атаясамліваецца толькі з перамяшчэннем. З даследаванняў, якія праводзіла ў Польшчы фірма «Eniro», вынікае, што чытанне навінаў з дапамогаю смартфона знаходзіцца на другім месцы пасля выкарыстання электроннай пошты. Дасследаванні, якія вяліся ў некалькіх краінах Reuters Institute Digital News (Report 2013), паказваюць, што сённяшнія карыстальнікі чакаюць паведамленняў заўсёды і паўсюль. Гэта не значыць, што яны арыентаваныя выключна на навіны па канале online, што яны не чытаюць папяровай прэсы, бо сёння мы маем стасункі са шматфарматным светам. Адначасова адзначаецца моцны давер чытачоў і карыстальнікаў інтэрнэту да інфармацыі, якую прапануюць вядомыя брэнды. Карыстальнікі, прыхільныя да марак, якія з'явіліся ў online-прасторы, як Yahoo і Huffington Post, нават вераць у паведамленні блогераў, але з найбольшым даверам ставяцца да газетнага сэрвісу. І гэта шанц для медыяў, хаця шлях да чытача нельга назваць простым. Чытанне навінаў у смартфоне істотна адрозніваецца ад чытання прэсы і нават ад традыцыйнага прагляду інтэрнэт-сэрвісаў. Магчыма, важнейшай за хуткасць інфармавання (пашыранае перакананне журналістаў, што трэба першым паспець з навінамі) робіцца форма. Гаворка вядзецца пра так званае news show, то бок пра графічную, даступную падачу добра адрэдагаванай навіны.

## Лакальныя медыя ў час крызісу

Адны спецыялісты перакананыя, што ў будучым на доступе да інфармацыі ў інтэрнэце будуць зарабляць галоўным чынам спецыяліза-






ваныя выданні (напрыклад, бізнес-медыя), іншыя сцвярджаюць, што якраз лакальныя медыя могуць глядзець у будучыню з большай надзеяй. Хутчэй за ўсё, маюць рацыю і адны, і другія, бо праблема не ў тым, ці прапануюцца чытачу спецыялізаваныя тэксты, ці лакальныя навіны, зразумелыя кожнаму, а ў тым, якую каштоўнасць яны маюць для чытача і што самі чытачы лічаць патрэбным і карысным. Тут маюць значэнне зацікаўленасць чытачоў, іх спадзяванні і магчымасць іх рэалізацыі. Медыя і журналісты мусяць больш уважліва прыслухоўвацца да чытацкай аўдыторыі і ўрэшце не павінны баяцца сказаць ёй, што за свае паслугі яны чакаюць грошай. Доўгатэрміновай праблемай — і не толькі лакальных медыяў — застаецца недастатковае інвеставанне ў інструменты і аналіз, якія дазваляюць зразумець патрэбы чытача.

Лакальныя выданні, якія дагэтуль адчуваюць недахоп фінансавання, супрацоўнічаюць з кепска падрыхтаванымі журналістамі, а нізкія ганарары не спрыяюць стварэнню высокаякасных тэкстаў. Гэта не адпавядае і рэалізацыі спадзяванняў інтэрнэт-карыстальнікаў. З іншага боку, менавіта лакальныя медыя знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці ад падзеяў, добра ведаюць фон, мясцовы каларыт, спецыфіку, структуру лакальных уладаў. Ці здольныя мы прапанаваць групе спажыўцоў нашага прадукту такую якасць, за якую яны будуць схільныя заплаціць раўнаважнік кошту «кубачка кавы раз на месяц», — як прадставіў свой платны доступ да сэрвісу штодзённік «The Augusta Chronical», які выходзіць у штаце Джорджыя?

Ці ёсць у прэсы надзея? Трэба збіраць досвед, эксперыментаваць. Французкі «Le Monde» увёў платную версію сэрвісу і адразу прааналізаваў, хто з'яўляецца ягонымі новымі падпісчыкамі. Высветлілася, што ў сярэднім яны прыкладна на 12 гадоў малодшыя за падпісчыкаў друкаванага выдання, сярод іх нашмат часцей сустракаюцца ўладальнікі і карыстальнікі смартфонаў і планшэтаў (большасць з іх — мужчыны), яны добра зарабляюць.

Нарвежскі «Dagbladet» эксперыментуе з новымі рэкламнымі фарматамі на мабільным канале. Менеджары газеты лічаць, што шанц крыецца ва ўвазе, якую карыстальнік аддае маломý экрану. Высвятляецца, што падрыхтаваная адпаведным чынам супрацоўнікамі «Dagbladet» рэклама атрымоўвае добрую статыстыку, а якасна зладжаная рэкламная кампанія, даступная ў мабільнай версіі, дае газеце ў два разы большыя даходы, чым абвесткі ў традыцыйнай прэсе.

## Галоўныя трэнды ў будучыні

**Іншага месца не існуе.** Ажно 95 % інфармацыі ў сеціве даступна ў любы час сутак. На працягу апошніх больш чым дзесяці гадоў вырасла пакаленне інтэрнэт-карыстальнікаў, для якіх галоўным інфармацыйным сэрвісам з'яўляецца Google. Велізарны аб'ём інфармацыйнага наплыву ў сеціве з'яўляецца прычынай таго, што інфармацыйны шум тут большы, чым у традыцыйных медыях. Цягам 3 секунд карыстальнік (прынцып: не прымушай мяне думаць, калі я не знайшоў таго, што шукаю, калі старонка не адчыняецца ці паведамленне для мяне незразумелае, я клікаю на чарговы лінк) вырашае, ці пазнаёміцца з інфармацыяй. Большасць карыстальнікаў шукае канкрэтную інфармацыю ці тое, што лічыць цікавым. І яны жадаюць атрымаць гэта зараз жа, бо ў сеціве няма чагосьці такога, як «іншае» месца выбару. Для вялікай колькасці карыстальнікаў, калі інфармацыя даступная ў некалькіх месцах, вырашальным з'яўляецца тое, дзе яны яе знайшлі ў першую чаргу з дапамогай Google ці FB, а не яе фактычная якасць.

**Дэлінеарызацыя.** У сеціве кожны артыкул жыве сваім жыццём, і кожны мае ўласную вартасць. Гэта не газета, дзе спажывец набывае ўвесь прадукт цалкам, таму праца журналіста ў сеціве каштуе роўна столькі, колькі спажыўцоў задаволіліся ягонымі матэрыяламі. Аднак найлепшыя артыкулы — не тыя, якія прыцягваюць найбольш чытачоў, а тыя, паводле якіх можна прадаць найдаражэйшую рэкламу. Таксама трэба памятаць пра ўзрост чытача, ягоныя захапленні, прыярытэты і патрабаванні пры спажыванні інфармацыі. Хуткае развіццё электронных медыяў у апошнія 50 гадоў (камерцыйныя станцыі ТБ, радыё, інтэрнэт) — гэта таксама мультыканальнасць, то бок магчымасць аднамасова карыстацца рознымі медыямі. У прынцыпе, менавіта так паводзяць сябе розныя ўзроставыя групы.

**Журналіст як брэнд.** Усё часцей журналіст не толькі піша ці фатаграфуе, але і самастойна

шукае спажыўца сваіх матэрыялаў. Уплыў на даходы выдаўца мае і тое, што журналіст робіць у сеціве, напрыклад, у сацыяльных сетках, бо менавіта такая актыўнасць адбіваецца на ягонай «рынкавай» вартасці.

Журналісты робяць памылку, калі не працуюць над уласным брэндам, не папулярызуюць свае публікацыі праз блог на сэрвісе ці платформе, праз актыўны профіль FB, у Twitter, Instagram. Гэта даволі радыкальныя змены ў параўнанні з газетай, дзе журналіст схаваны за брэндам, для якога ён піша. Ці нехта пытаецца ў шапіку пра газету з артыкулам Яна Кавальскага? У сеціве «купляюць» журналіста, а не толькі прадукт ягонага працадаўцы.

**Рэдактар, не журналіст.** З прычыны моцнай інтэрактыўнасці інтэрнэту ад журналістаў усё больш патрабуецца задавальняць спадзяванні карыстальнікаў. Тут, па праўдзе кажучы, сціраецца мяжа паміж інфармацыяй і гульнёй, аднак прыкметна ўзрастае патрэба ў рэдактарскай працы. Бо менавіта выбар рэдактарам падзеі надае матэрыялам адпаведны статус. Апроч усяго, збіранне, а потым выбар, праверка інфармацыі надаюць сэнс звароту да чытачоў — сярод усяго інфармацыйнага «шуму». Адначасова ацэньваецца камунікаванасць зместу, яго ўнікальнасць — ці не напісаў нехта пра гэта раней. Сучасныя чытачы таксама робяць стаўку на надзейнасць інфармацыі, рэнамэ і прозвішча аўтара. Менавіта гэтыя фактары гарантуюць высокі ўзровень даверу інтэрнэт-карыстальнікаў да інфармацыі.

**Навіны сацыяльных сетак.** З'яўленне сэрвісаў кшталту FB, Twitter, Instagram дыяметральна змяніла медыйны ландшафт. Вядома, гэта зручны канал для брэндаў, каб падтрымліваць кантакт з чытачом і інфармаваць яго. Хутка высветлілася, што інтэрнэт-спажыўцы аптымізуюць працэс пошуку інфармацыі і выкарыстоўваюць натуральны «фільтр», які ствараюць інтэрнэтсуполкі. Сябры гэтых суполак клікаюць туды і цікавяцца тым, чым цікавяцца іх знаёмыя. Прэзентуючы нейкі матэрыял, карыстальнік сам становіцца творцам. Вельмі абмежаванай застаецца роля «кантралёраў доступу» — менавіта такую функцыю выконвалі да гэтага часу журналісты. Меркаванне пра значнасць тэксту выказваюць таксама і інтэрнэт-карыстальнікі. Зваротная рэакцыя дзейнічае дасканала — журналіст імгненна атрымоўвае каментары наконт размешчанага ў сеціве тэксту. Twitter, FB хутка сталі штодзённымі інструментамі працы журналіста, месцам ягонага дыялога з чытачом. Шмат журналісцкіх матэрыялаў сёння маюць сваю гісторыю ў сацыяльных сетках: нехта заснаваў групу на FB, яшчэ хтосьці напісаў у профілі...

**Паслуга і размова.** Для інтэрнэт-карыстальнікаў сеціва з'яўляецца перадусім месцам, дзе людзі знаходзяць інфармацыю і забаўляюцца. Сеціва — гэта крыніца найактуальнейшай і найбольш прыдатнай інфармацыі. Але ж карыстальнік шукае тут яшчэ і разумення, размовы, магчымасці выказаць сваю пазіцыю і супрацьпаставіць яе меркаванню іншых. Чытач лёгка паддаецца эмоцыям, звычайна ён крытычна ставіцца да паведамленняў, якія чытае. Карыстальнікі часта ўваходзяць у сетку, таму што ім трэба вырашыць нейкую праблему, яны штосьці шукаюць (канкрэтныя рэчы, інфармацыю, эмоцыі), хочуць нешта высветліць. Медыя, на жаль, яшчэ не навучыліся да канца задавальняць асаблівыя патрэбы інтэрнэт-карыстальнікаў.

**Відэа, мультымедыйнасць.** Хутка ў змаганні за ўвагу чытачоў будзе недастатковым толькі напісанага слова і фотаздымкаў. Усё больш істотнымі становяцца новыя цікавыя формы падачы матэрыялу — гэта відэа- і нават фотакасты. Змест, мова, форма — адным словам, мультымедыя дазваляюць затрымаць увагу карыстальніка пры азнаямленні з сюжэтам. Нічога дзіўнага, што тэлевізары ўсё больш актыўна спалучаюцца з каналам online, а стандартам робіцца дэманстрацыя на экране карцінкі і гуку, якія звязаныя і працуюць на паведамленне, даступныя на www (што нагадвае лінкі ў сеціве). Узрасце неабходнасць у журналістах, якія ўмеюць выкарыстоўваць мультымедыйнасць пры падрыхтоўцы сваіх сюжэтаў.

***

Як бы ні было, а медыя ўсё яшчэ маюць значэнне і вялікую сілу ў сучасным свеце і рэаліях грамадзянскай супольнасці. Іх абавязкам і надалей застанецца прапанова людзям інфармацыі, але яны павінны таксама выхоўваць чытачоў. Выданні могуць і сачыць за ініцыятывамі ўладаў, і прапаноўваць забаву, але таксама яны павінны фарміраваць светапогляд, паказваць перавышэнні паўнамоцтваў чыноўнікаў і выстаўляць на агляд недасканаласці сённяшняй прававой сістэмы. Не істотна, праз які канал яны будуць гэта рабіць, важна, каб іх намаганні былі плённымі. І тады, калі яны трапляюць да адрасата, друкуючы газету, і тады, калі прапануюць бясплатны ці платны сэрвіс www, а таксама калі рыхтуюць інфармацыю для выкарыстоўвання з планшэта ці са смартфона, — медыя маюць сэнс толькі тады, калі яны з'яўляюцца апорай дэмакратыі.

# «БОБРУЙСКИЙ КУРЬЕР» — ЗЕРКАЛО ДВУХ СТОЛЕТИЙ



## В августе 2014 года исполнилось сто лет одной из старейших белорусских газет

*Анатолий САНОТЕНКО,*
*главный редактор*
*«Бобруйского курьера»*

### Мы «помним», как все начиналось...

Первый номер «Бобруйского курьера» вышел 31 августа 1914 года. Издателем, учредителем и редактором газеты тогда был владелец типографии (самой крупной в регионе, основанной в 1888 году), театра и цирка Гилер Фавович Фридлянд.

В настоящее время в нашей (и не только) стране невозможно найти бизнесмена, в руках которого находился бы столь разнообразный бизнес: крупная типография, театр, цирк и — ежедневная общественно-политическая, «массовая» газета.

Как можно понять по датам и событиям, Фридлянд на протяжении 30 лет оказывал значительное влияние на культурную среду в тогдашнем Бобруйске. А также на, как бы мы сейчас сказали, сферу развлечений. Видимо, он был одним из самых известных людей в городе. Но — случился Октябрьский переворот, и «новой власти», пришедшей с Востока, уже не требовались ни такие люди, ни их проекты — с вещами на выход, как говорится…

У Фридлянда все отобрали и «национализировали», газету закрыли. Примерно с августа 1920 года и до сей поры в принадлежавшем ему просторном здании расположена редакция газеты «Коммунист» (теперь — «Бабруйскае


ОТКРЫТА ПОДПИСКА НА 1916 ГОДЪ НА ГАЗЕТУ „Бобруйскiй Курьеръ"
КУРЬЕРЪ
Бобруйскiй КУРЬЕРЪ
Петроградскiй человѣкъ
Атаманша Метадора
С. Мостковой
ПЕРЕВОЗКИ

жыццё»). И по-прежнему работает типография. Только теперь она носит имя коммуниста-подпольщика Непогодина…

Про Фридлянда сейчас практически никто ничего не знает, даже в местной Еврейской общине. Будто и не было такого человека. И — славных дел рук его…

До своего закрытия большевиками «Бобруйский курьер» выходил шесть лет, с перерывом на немецкую оккупацию в 1918 году (февраль-ноябрь). Между тем временная польская администрация не запрещала выход газеты в 1919–1920 годах.

Издавался «Бобруйский курьер» ежедневно, на русском языке (некоторая информация печаталась также и на польском) — до июля 1920 года. С 1916 года выходило приложение к газете — «Телеграммы "Бобруйского курьера"».

По сути, это была качественная городская газета, которая умело сочетала на своих страницах новости, местную, российскую и мировую хронику, разностороннюю информацию, фельетоны, стихи, беллетристику и… многочисленную рекламу. Жила газета за счет продажи, подписки и рекламных объявлений. Как можно судить, жила хорошо, — пока не пришла новая власть.

Позиционировал себя «Бобруйский курьер» как «ежедневную беспартийную газету». Надпись такого рода печаталась под «шапкой» газеты. (Так же позиционирует себя «БК» и сейчас, в наши дни — только уже в интернете.)

«Бобруйский курьер» стал издаваться через месяц после начала Первой мировой войны. И в его судьбе, как в зеркале, отразилась вся история XX века, а также — начала века XXI.




## «БК»: новейшая история

Свой выход «Бобруйский курьер» возобновил ровно через 70 лет — в 1990 году. Сначала — как самиздат, в формате бюллетеня.

У его тогдашнего издателя — молодого журналиста Александра Красавина — даже состоялись душещипательные разговоры по этому поводу с представителями советских спецслужб... Им — не нравилось, но было уже поздно...

Через год Советский Союз, оставив за собой миллионы жертв и преступлений против собственного народа, прекратил свое существование. «Бобруйский курьер» стал выходить как приложение к областной газете «Могилевская правда», а с 1992 года — как самостоятельное общественно-политическое издание.



*Типография Г. Фридлянда, основанная им в 1888 г.*
*Ныне — «Бобруйская укрупненная типография имени А.Т. Непогодина»*

Некоторое время этим проектом занимались журналисты-энтузиасты: что-то у них получалось, что-то — нет. Затем учредителем «БК» стала наша издательская фирма (которой я руковожу с 2003 года). Но до 1996 года «Бобруйский курьер» был «запасным», не главным проектом. В то время фирма и ее учредители «вкладывались» в раскрутку новой коммерческой газеты для деловых людей, которая, будучи затем «уведена» под других, провластных, хозяев, благополучно выходит и в наши дни.



*Анатолий Санотенко, главный редактор «Бобруйского курьера»*

После отчуждения (сейчас бы сказали — отжима) успешно развивающегося рекламного издания большая часть оставшегося творческого и технического коллектива занялась (наконец-таки) продвижением «запасного» варианта — «Бобруйского курьера».

На этом пути были свои взлеты и падения, менялись собственники, концепции, редакционная политика... Тираж «БК» в конце 90-х доходил до 20 тысяч экземпляров...

Но затем стала меняться ситуация. И не столько на местном рынке рекламы или печатных СМИ, сколько в нашем царстве-государстве. Власти взяли бизнес (в особенности — издательский) под жесткий административно-идеологический контроль. И издательский проект теперь мог быть успешным только у тех, кто, как и в советские времена, колебался вместе с генеральной линией «партии и правительства».

Между тем, став в мае 2003 года учредителем, издателем и главным редактором «Бобруйского курьера», автор этой публикации смог за один месяц реформировать, очень серьезно укрепить отдел рекламы, усилить отдел распространения, а также саму редакцию, пригласив на работу способных журналистов.

Доходы от рекламы через три месяца увеличились вдвое. И продолжали расти.

Как можно судить, это очень напугало местные власти (которые, в общем-то, и являются главным «конкурентом» любого независимого СМИ в Беларуси). Первые-вторые и т. д. лица города стали закулисно вмешиваться в хозяйственную деятельность «БК», запрещать размещение в нем рекламы, совместные бизнес-проекты с предприятиями, подписку... Начали засылать налоговых инспекторов с проверками (в августе 2003 года они сидели в редакции почти месяц).

Поскольку план властей заключался в незаметном, мягком удушении газеты, действовать быстро, комиссарскими методами они не могли; на все это требовалось время.

«Бобруйский курьер» же «по инерции» и в полном соответствии с законами зарождающегося рынка продолжал еще какое-то время развиваться. Но в начале 2004 года в Беларуси была введена «идеологическая вертикаль». Борьба с «Бобруйским курьером» стала вестись более методично, на постоянной, «профессиональной» основе.



*Михаил Кривец (коммерческий директор, редактор БК в 2005–2006 гг.) в редакции БК (2007 г.)*



*Андрей Шобин (журналист БК)*






*Виктор Масалович, фотокорреспондент, видеооператор БК*



*Виктор Качан, выпускающий редактор БК (2003 г.)*

Был такой период, когда автор этого материала, приходя на работу, чуть ли не каждый день узнавал от своего коммерческого директора, что с газетой прекращает сотрудничество очередной крупный рекламодатель — промышленное предприятие, банк и т. д.

В кулуарах — потом, после — их руководители обычно признавались: не наше, мол, решение, мы бы — с удовольствием, но — власти!..

Власти, угрожая всякими неприятностями, приказывали прекратить любое сотрудничество с нашей газетой. Газетой, отстаивающей свое право на свободу слова и те демократические ценности, в соответствии с которыми живут все цивилизованные страны. Газетой, которую они назвали (и называют сейчас) «желтой прессой», «вражеским СМИ», «оппозиционным изданием»... Вот такие «почетные» ярлыки и «звания» от нью-большевиков...

Как мы теперь понимаем, обо всех наших рекламодателях и начинающихся бизнес-проектах власти узнавали, отслеживая наш банковский счет. «Мониторинг» нашего счета ложился к ним на стол каждый месяц...

В общем, вместо развития газеты стали происходить прямо противоположные процессы. В начале 2007 года, видя, что «БК» все еще живет и не собирается, так сказать, «в лучший мир», власти дали команду «Союзпечати» — прекратить с нами договорные отношения.

На два с половиной года мы потеряли возможность сотрудничать с монополизированной и единственной в республике системой распространения.

Но и это был еще не конец. Теряя бизнес-возможности, тиражи, рекламодателей, сотрудников, «Бобруйский курьер» сумел-таки дожить до очередных выборов... Александра Григорьевича Лукашенко.

Это были совсем уже непорядок и безобразие. Практически — идеологическая диверсия! На носу, так сказать, важная политическая «спецоперация», а вопрос с «Бобруйским курьером» окончательно так и не решен!




*Вадим Александрович (верстальщик БК) и Лилия Санотенко (начальник отдела рекламы БК) в 2003 г. у подъезда редакции БК*




*5 ноября 2012 г. Бобруйск. Вечер в защиту журналистики*

И решили власти предержащие (воспользовавшись ослабленным финансовым положением газеты) покончить с этой «бобруйской аномалией» раз и навсегда. Потребовали — через могилевскую налоговую — рассчитаться по хозяйственным долгам полностью и сразу... Причем, когда мы (в первый раз) сумели-таки рассчитаться, — потребовали еще раз, в режиме «контрольного», так сказать, взыскания...

Сказано же — выборы грядут... Следовательно, жить или не жить... кому-то. Вот в чем вопрос, безо всяких там шекспиров...

По нашим (с коммерческим директором) «скромным» подсчетам, за семь лет такой вот борьбы с «Бобруйским курьером», такого вот «тихого удушения» нашей газеты и фирмы мы потеряли — минимум — около миллиона долларов (без учета развития и расширения бизнеса). Для нас это — огромные деньги, можно сказать, десять годовых бюджетов.

В этой сумме — все: дальнейшее развитие, благополучная жизнь, свое редакционное помещение (или дом), свой парк машин, своя система распространения... Даже — своя типография (но это — не здесь и не сейчас, разумеется, а в свободной Беларуси).



*Старейшина бобруйской журналистики Михаил Матвеевич Кривец (в прошлом — коммерческий директор, редактор БК в 2005–2006 гг.) на вечере, посвященном его 70-летию (16.11.2012)*



*Анатолий Санотенко (главный редактор БК, литератор) подписывает читателям свои книги на литературном вечере (Бобруйск, 16.01.2008)*



*Марина Молчанова, корреспондент газеты*



*Михаил Ларченко, в прошлом — верстальщик и администратор сайта БК (работал в 2004–2010 гг.)*



*Евгений Васькович (корреспондент БК, ныне — политзаключенный), весна 2010 г.*

# Страшный сон идеологов

Но «Бобруйский курьер» не прекратил свое существование, как это было в июле 1920 года: времена изменились, и «большевики» теперь не те, — отягощенные фобиями, суевериями, юриспруденцией, историческим контекстом и — собственным коррупционным бизнесом...

В общем, это — страшный сон идеологов, их ночной кошмар: «Бобруйский курьер» не только живет, но «Бобруйский курьер» — forever!

Да, мы «ушли» в интернет, выходим теперь только как электронное СМИ. Но, с другой стороны, мы в интернете были «всегда» (если точнее, с июня 1998 года — времени создания сайта «БК»).

А если брать со стороны «первой», — электронное СМИ — это современно, это то, что надо, то, что необходимо сегодняшнему читателю...

Как говорят у нас в Бобруйске по таким поводам, это — самый цимус!

Так что спасибо «партии и правительству» за наше «счастливое детство»!

Нам — 100 лет, и мы живем, творчески развиваемся.

А в «партии и правительстве», как и когда-то, 97 лет тому назад, попрежнему много убогих, вороватых временщиков.

И, как и когда-то, они не работают на благо и процветание отечества, а лишь рапортуют, прикрываясь революционными лозунгами. И все гребут и гребут под себя, считая дни до окончания своих «полномочий»…



Шаноўныя калегі!

Шчыра віншую вас
з радаснымі зімовымі сьвятамі:
Калядамі й Новым рокам!
Няхай мудрасьць ідзе
за вамі паўсюль,
ва ўсіх вашых справах,
на ўсіх жыцьцёвых шляхах.
Ад усяе душы зычу
зьнешняе і ўнутранае свабоды,
веры ў сваё рамяство
і ў тое, што праўда
абавязкова пераможа.
Прафэсійнае трываласьці
і няхільнасьці!

З цёплым прывітаньнем
Jaugieni Vaskovich.

*Письмо Евгения Васьковича своим коллегам (январь 2014 г.)*

*Сотрудники и друзья БК (ноябрь 2012 г.)*



# Капітан непераможных караблёў

*Сяргей ШАПРАН,*
*novychas.info*

**Ці скончылася з сыходам Пятра Марцава яго эпоха? Звычайна эпоха завяршаецца, калі ў настаўніка няма паслядоўнікаў. У Марцава былі і засталіся журналісты «Имя» і «БДГ», яго эпоха працягваецца.**



З Пецем Марцавым… — хай не прагучыць гэта фамільярна, але Марцава я ведаў амаль трыццаць гадоў: у 1985-м паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а Марцаў, толькі скончыўшы філфак, быў мастацкім кіраўніком нашага Студэнцкага тэатра эстрадных мініяцюр, ці, прасцей кажучы, СТЭМа. **Марк Мерман** пісаў песні для спектакляў, а іх пастаноўшчыкам быў Пеця. Самы яркі ўспамін тых гадоў — **Леанід Шырын** і **Пётр Марцаў** спяваюць «Саракавыя-ракавыя» на верш Самойлава: «Сороковые-роковые… А мы такие молодые»… Дык вось, з Пецем Марцавым мы размаўлялі «пад запіс» толькі аднойчы. Гутарылі пра канкрэтную гісторыю з асабіста-дзяржаўнага жыцця Марцава.

Лета 1999 года. «БДГ» друкуе праграму фармавання золатавалютных рэзерваў Беларусі, якая значылася пад грыфам «абсалютна сакрэтна». Інфармацыйнай нагодай стаў нечаканы арышт Эдуарда Эйдзіна, кіраўніка групы, што і распрацавала праграму. Паводле публікацыі, людзі, якія ажыццяўлялі здзелкі на тэрыторыі Беларусі, Расіі і Казахстана, рабілі гэта з парушэннем заканадаўства ўсіх трох дзяржаў. Эдуард Эйдзін быў арыштаваны з той прычыны, што пэўныя асобы пажадалі пераключыць гэтыя схемы на сябе, выключыўшы тых, хто займаўся праграмай: не паставіўшы своечасова золата ў Беларусь, яны далі зразумець, што яно і не будзе дастаўлена, пакуль Эйдзін з таварышамі будуць мець дачыненне да падобных спраў. «БДГ», апублікаваўшы гэтую інфармацыю, мусіць, самым сур’ёзным чынам нашкодзіла закрыццю здзелак.

Афіцыйная рэакцыя на публікацыю ў «БДГ» была надзвычай эмацыйная: падчас вузкай нарады з кіраўнікамі сілавых структур быў дадзены загад ліквідаваць галоўнага рэдактара «БДГ». Праўда, аднаму з тых, хто атрымаў той загад, ён здаўся, мякка кажучы, незаконным. У выніку гэты чалавек знайшоў магчымасць папярэдзіць Марцава.

— *Я разумеў, што гэта эмацыйнае рашэнне,* — распавядаў Пётр. — *Аднак я не мог дакладна ведаць, праўда гэта ці ўсё ж такі правакацыя. Але ў памяці былі вясновыя падзеі таго года: раптоўная смерць аднаго з лідараў апазіцыі Генадзя Карпенкі, таямнічае знікненне Юрыя Захаранкі… Я прыйшоў да высновы, што, магчыма, варта паставіцца да гэтага папярэджання больш сур’ёзна, чым звычайна, паколькі, мяркую, кожны галоўны рэдактар незалежнай беларускай газеты можа пахваліцца, што некалькі разоў на год яму пагражаюць. На жаль, гэта норма для нашай прафесіі. Я падумаў, што калі гэта ўсё сур’ёзна, дык мяне знойдуць дзе заўгодна. І прыняў рашэнне… усіх падмануць і не выязджаць з краіны. Але зрабіў выгляд, што з’язджаю. Дзеля гэтага на працягу двух дзён адкрыў візу ў Германію, выпісаў камандзіроўку і нават купіў квіток на самалёт па маршруце Масква — Гамбург…*

На працягу гэтых двух дзён Марцаў зняў кватэру ў Мінску, падключыўся да інтэрнэту і паставіў камп’ютар. І, трэба сказаць, падмануць усіх атрымалася: яго ніхто не шукаў. Праўда, адзін раз усё ж знайшлі. Абсалютна выпадкова. Справа ў тым, што ў той жа час ішла размова пра тое, што ў турме можа апынуцца рэдактар газеты «Имя» Ірына Халіп, і Марцаў сустрэўся з ёй, каб паведаміць пра тое і паспрабаваць пераканаць яе з’ехаць з краіны. Менавіта ў той момант яго і засекла «наружка», якая вяла Халіп, — абаіх сфатаграфавалі. Фотаздымкі леглі на стол таго,

хто і аддаў загад пра ліквідацыю. Рэакцыя была зноў эмацыйная: «Як жа вы сцвярджаеце, што ён з'ехаў, калі ён тут?!» Зрэшты, яго супакоілі, пераканаўшы, што Марцаў прыязджаў у Мінск толькі на адзін дзень…

*— На гэтай кватэры я пражыў паўтара месяца,* — працягваў ён аповед. — *І падыхаць паветрам выходзіў толькі па начах. Прадукты прыносіў мой сябар, зносіны з якім я не падтрымліваў ужо гадоў дзесяць, таму было малаверагодна, што нехта мог сачыць за ім. Наогул, адчуванні не з прыемных… Але іншая справа, што гэтая гісторыя ў чарговы раз прадэманстравала, што кіраўнікам дзяржаў і вышэйшым службовым асобам не так ужо прыемна займацца падобнымі справамі, і ёсць людзі, якія не схільны выконваць падобныя загады. Аднак калі яны не могуць адкрыта запярэчыць, дык тады, як мінімум, здольныя хаця б сабатаваць іх. Апроч таго, я разумеў, што загад у дачыненні да мяне будзе рана ці позна адменены. Мабыць, так і адбылося, бо аднойчы атрымаў па электроннай пошце ліст, дзе паведамлялася, што я магу з'явіцца. У выніку я «выйшаў на волю». І роўна праз дзесяць дзён знік Віктар Ганчар.*



Праўда, ужо пасля выхаду Марцава на волю пачалася шырокамаштабная праверка паўсотні фірм, якія працавалі з «БДГ» і рэкламнымі агенцтвамі Марцава.

*— Прафесія журналіста ў Беларусі — прафесія, безумоўна, небяспечная,* — рэзюмаваў ён тады. — *Факты кажуць самі за сябе. Прычым факты, якія не маюць дачынення асабіста да мяне. Гэтая прафесія заўсёды небяспечная для жыцця ў тым выпадку, калі журналіст апаніруе ўладзе, калі ён даследуе факты карупцыі і крадзяжу сярод вышэйшага чыноўніцтва. Журналісту ў гэтым выпадку пагражае крымінальная справа — ці проста збіццё. Пэўны час мы мелі справу з абсалютнымі адмарозкамі (і неістотна, якую пасаду ў дзяржаўнай іерархіі займаў гэты адмарозак), для якіх загадаць забіць чалавека нічога не каштавала. Гэтыя людзі не мелі ніякіх маральных бар'ераў. І, на жаль, вельмі шмат людзей, якія здольныя за грошы такі загад выканаць. Аднак, мяркую, Беларусь у гэтым сэнсе — краіна, на жаль, не ўнікальная. Проста сітуацыя тут адрозніваецца тым, што журналіст, які працуе ў недзяржаўных СМІ, ужо з прычыны гэтых абставінаў абавязкова будзе знаходзіцца пад пільным наглядам улады. Мяркую, найлепшая абарона ў гэтым сэнсе — інфармацыя, якой ты валодаеш і якую своечасова атрымліваеш…*

Але колькі падобных гісторый адбылося ў жыцці Марцава? Адна? Дзве? Тузін? Аднаму Богу вядома. Ці яшчэ каму?..

Увогуле, Пеця быў выдатным апавядальнікам. Гэта таксама адзін з яго шматлікіх талентаў. Ужо не пад запіс ён расказваў, як у гасцініцы «Мінск» яго спрабаваў завербаваць супрацоўнік КДБ, якога Марцаў пасля некалькіх сустрэч «перавербаваў». Усё ж ён валодаў дзіўным талентам пераконваць (дарэчы, праз шмат гадоў на пытанне аднаго з гэбістаў: «Колькі нашых у цябе працуе?» — рэдактар «БДГ» іранічна адкажа: «А колькі прыслалі, столькі і працуе»).

Ці яшчэ гісторыя, як падлеткамі Пеця з сябрукамі павярнулі вежу ў танка, што стаіць на пастаменце каля мінскага Дома афіцэраў, у бок будынка ЦК КПБ, пасля чаго пачаўся, вядома, вэрхал, і тую вежу прыварылі ўжо навечна. Ці як быў перакладчыкам у афрыканскіх плямёнаў, якія варагавалі паміж сабой. Ці пра інтэрв'ю з Уладзімірам Караткевічам, якое ў бібліяграфіі Уладзіміра Сямёнавіча не згадваецца. Ці, нарэшце, пра тое, як напярэдадні чарговых прэзідэнцкіх выбараў яго запрасіла да сябе кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Пяткевіч (хто сёння прыгадвае яе? Усе гэтыя чыноўнікі як прыходзілі, так і сыходзілі, змяняючы адно аднаго ў бясконцай чахардзе, а Марцаў дваццаць гадоў быў і заставаўся такі адзін) і патрабавала адрадзіць «БДГ», таму што, бачыце, чытаць няма чаго. Гэта было б вельмі падобна да анекдота, калі б гісторыю гэтую, пасмейваючыся, не расказаў сам Марцаў.

А яшчэ з ім было надзейна. І гэта таксама адзін з яго талентаў. І нават калі патаналі нашы караблі — «Имя» і «Белорусская деловая газета», — мы да апошняга верылі ў нашага капітана Пятра Марцава. З ім было надзейна да апошняга. І не толькі таму, што мы ў яго верылі, але і таму, што ён сапраўды быў адважным капітанам. Хоць колькі яму было, калі ён толькі запусціў у плаванне свае караблі? Трыццаць з нечым? А калі, не жадаючы здавацца, сам жа іх і патапіў, — крыху больш за сорак... Марцаў не на словах — ён прыкладам сваім вучыў бясстрашнасці.

Ды і газеты, выдаваныя Марцавым, былі не проста газетамі. Што роўнага ім было раней? Што ёсць сёння?.. Праз «Имя» і «Белорусскую деловую газету» прайшло каля трохсот журналістаў. Марцаўскія выданні былі сапраўднымі журналісцкімі ўніверсітэтамі. Не думаю, што будзе вялікім перабольшаннем сказаць, што яны, свядома ці не, але вызначылі аблічча сучаснай беларускай журналістыкі. Больш за тое, яны былі сапраўднай чацвёртай уладай: газеты Марцава маглі любіць ці ненавідзець, — але іх усё адно чыталі. Усе — пачынаючы ад простых чытачоў і заканчваючы няпростай гэтай уладай…

Ці скончылася з сыходам Пятра Марцава яго эпоха? Звычайна эпоха завяршаецца, калі ў настаўніка няма паслядоўнікаў. У Марцава былі журналісты «Имя» і «БДГ», былі і засталіся, такім чынам, яго эпоха працягваецца. І ў гэтым яшчэ адзін бясспрэчны талент Марцава: ён умеў па натхненні збіраць разам таленавітых людзей, якія вельмі хутка рабіліся адной дружнай камандай. Камандай, на чале якой, бачна ці не, стаяў ён, капітан. Капітан Марцаў. Пеця Марцаў, які трыццаць гадоў таму спяваў: «А мы такие молодые».

***Фота Юліі Дарашкевіч***

# ТОП-6 бизнесменов в Беларуси, которые зарабатывают на продаже информации

*Сергей Вернигородский*
*Zautra.by*

Медиахолдинг, созданный Петром Марцевым, просуществовал почти 15 лет — с 1992 по 2006 год. Ушедший на днях из жизни издатель первым продемонстрировал, как зарабатывать на продаже информации. Кто сегодня в Беларуси может считаться успешным бизнесменом, работающим на информационном рынке?

В условиях, когда медийный рынок (особенно его информационная составляющая) практически монополизирован и находится под пристальным вниманием государства, создать и удержать успешный проект достаточно сложно. Но в Беларуси есть бизнесмены, которые сумели это сделать.

## Татьяна Санчук, «Толока»

У истоков издательского бизнеса, которым управляет Татьяна Санчук, стоял депутат Верховного Совета Беларуси Александр Лукашенко. Сегодня «Толока» — холдинг из нескольких компаний, работающих на рынках печатных СМИ в Беларуси, России и Украине. Он издает около 35 газет и журналов для женщин, о кухне, медицине, по садоводству и огородничеству, рукоделию, уходу за детьми, на молодежные темы и т. д.

## Юрий Зиссер, TUT.BY

Его интернет-бизнес имеет несколько направлений, среди которых одно из главных — создание контента для портала TUT.BY. Проект был запущен в 2000 году. Сейчас это крупнейший информационно-развлекательный ресурс Байнета. По его образу и подобию создано несколько интернет-изданий в Казахстане, Азербайджане, Узбекистане, Нигерии и в других странах.

## Георгий Копылов, «Телеком-Гарант»

Компания «Телеком-Гарант» появилась в Орше в 1991 году, стартовав с кабельного телевидения. Сегодня входящая в нее телекомпания «Скиф» предлагает собственную продукцию в Орше, Витебске, Полоцке, Борисове, Бобруйске. Аудиторию составляет около 500 тысяч зрителей. Бизнесмену также принадлежат радио и газета «Телеком-экспресс» в Орше и газета «Витебский проспект» в Витебске.

## Виталий Шуравко, Onliner.by

Проект, появившийся в Байнете в начале 2000-х годов, начинался как площадка, торговавшая мобильными телефонами и аксессуарами. За пятнадцать лет Onliner.by вырос в полноценный информационный ресурс.

## Виталий Филинский, «ФилТВ»

В 1996 году гомельский бизнесмен создал телекомпанию «ФилТВ», которая сегодня создает конкуренцию государственным СМИ на медиарынке Гомеля. Он также издает газеты «Телевизор» и «Программа» и занимается продажей рекламы на «Радио Рокс» в Гомельской, Могилевской, Брестской, Гродненской и Витебской областях.




## Игорь Кашликов, «Ранак»

Компания «Ранак» также работает в гомельском регионе, ее центральный офис расположен в Светлогорске. «Ранак» — это сеть кабельного телевидения и эфирно-кабельное вещание на Светлогорск, Мозырь, Речицу, Гомель, Жлобин, городская компьютерная сеть, FM-радио и газета «Ранак-плюс».




# «Бажынкі-2014»: «Медыямарафон», «Angry JAB», яйкі, катамараны і Валерый Шчукін

**Традыцыйна ў жніўні адбыўся карпаратыўны фестываль ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Гэтым разам — у Гомелі і яго ваколіцах.**









На сёлетні фэст запісалася каля трох дзясяткаў адважных і нястомных бажаўцаў з Мінска, Брэста, Маладзечна, Горак, Барысава, Глыбокага і Баранавічаў, якія палічылі, што адлегласці не павінны перашкаджаць журналісцкаму яднанню. Адвагу і нястомнасць прадэманстравалі не толькі лёгкія на пад’ём маладзёны, але і заслужаныя бажаўцы сталага веку — Валерый Аляксеевіч Шчукін, напрыклад, запісаўся на фэст адным з першых.

Першы з двух насычаных дзён распачаўся «Медыямарафонам» па Гомелі: на працягу чатырох гадзін пяць журналісцкіх камандаў гойсалі па абласным цэнтры, рыхтуючы матэрыялы на зададзеную «штабам» тэму. Вынікі творчасці арганізатары ўвечары накіравалі на суд прадстаўнічага журы ў складзе Людмілы Атчанашанка, Аляксандра Тамковіча, Аляксандра Коктыша, Сяргея Балая і Змітра Лукашука. Журы ацаніла творчасць калег па 5-бальнай сістэме і вызначыла пераможцаў. Вынікі «Медыямарафона» падводзіліся ў суботу.

Сёлета сімвалам «БАЖынак» быў «Angry JAB» — сярдзітая брывастая жабка, чый вобраз быў навеяны знакамітай камп’ютарнай гульнёй «Angry Birds».

Добра папрацаваўшы, «марафонцы» перайшлі да якаснага адпачынку. Лагодныя рачныя хвалі, маляўнічы краявід, гомельскія прысмакі і феерычныя выступы гурта «Ягорава Гара» і Вольгі Цярэшчанка ў месяцовым святле дапамаглі пазбавіцца ад дзённай стомы і адкрылі «другое дыханне», так што спаць кладліся позна...

Другі дзень быў не менш насычаны: адразу ж пасля сняданку пачаліся спартовыя і... каляспартовыя мерапрыемствы.

Кіданне сырых яек у калег вельмі натхніла ўдзельнікаў фэсту. Тых, хто іх лавіў, не адпускала нервовае напружанне...

Пасля вясёлых спаборніцтваў каманды пачалі рыхтавацца да прэзентацыі. Кожная мусіла прыдумаць сабе назву, сімвал і дэвіз, а таксама распавесці калегам, як ім разам працавалася ў палявых умовах днём раней.

Пасля прэзентацыі надышоў час узнагародаў. Паводле журы, самы ўдалы матэрыял атрымаўся ў каманды Таццяны Смоткінай, Настассі Роўда, Руслана Гарбачова і Барыса Гарэцкага, якія даследавалі асартымент прадуктаў на гомельскіх рынках (куратарам ад Гомеля выступаў Мікалай Гарбачоў).

На другім месцы апынулася каманда Ларысы Шчыраковай, Алега Агеева, Антона Сурапіна і Ігара Дароніна (куратарам ад Гомеля быў Леанід Судаленка). Яна шукала ў Гомелі мясцовую цікавостку — шакаладныя пельмені.

Трэцяе месца заняла каманда Галіны Буднай, Аляксандра Зянкова, Валянціна Міхальцова



















і Генадзя Кеснера (куратар ад Гомеля — Яўген Якавенка). Каманда, праўда, змяніла зададзеную тэму: замест гомельскіх скейтбардыстаў, якіх з прычыны гарачыні ў горадзе не знайшлося, журналісты распыталі пра жыццё бабульку, якая зарабляе вулічным граннем на гітары... лямпачкай.

Акрамя гэтага, па традыцыі шляхам апытання ўдзельнікаў былі вызначаныя «Містэр БАЖынкі» і «Міс БАЖынкі» — Анатоль Гатоўчыц і Ларыса Шчыракова, а таксама «Віцэ-містэр» і «Віцэ-міс» — Яўген Валошын і Настасся Роўда. Як заўжды, хлопцы выбіралі «Міс», а дзяўчаты — «Містэраў».

Як зазначыў на развітанне кіраўнік Гомельскай філіі ГА «БАЖ» Анатоль Гатоўчыц, варта часцей праводзіць «БАЖныя» мерапрыемствы ў рэгіёнах. «Вось у наступным годзе — зноў Гомель, а пасля ўжо можна і іншыя месцы апрабаваць», — бадзёра рэзюмаваў гасцінны гаспадар.

***Фотаздымкі пададзеныя ГА «БАЖ»***





# ОТ КОДЕКСА СТРОИТЕЛЯ КОММУНИЗМА — К КОДЕКСАМ РЕДАКЦИЙ

**В издательстве ЕГУ (г. Вильнюс) вышел учебник Анатолия Гуляева «Профессиональная этика журналиста. От морального кодекса строителя коммунизма к этическим кодексам редакций». Подобных учебников нет не только в Беларуси, но и в странах Балтии. Недавно книга была переведена на итальянский язык. «Абажур» предлагает некоторые главы из книги.**





*Анатолий ГУЛЯЕВ*

Профессиональная этика журналиста — одна из самых неразработанных проблем как в учебных планах вузов на территориях бывшего Советского Союза, так и в представлениях журналистского сообщества о качественной и некачественной журналистике. История вопроса (повторим, на территориях бывшего Советского Союза) едва насчитывает два десятилетия. По всей вероятности, этим и объясняется тот факт, что до сих пор по данной проблеме не появилось основательных учебников. А те, что есть в вузовских библиотеках (во всяком случае, в Беларуси), основаны на базовых ценностях еще советских времен, когда журналистика держалась на обслуживании потребностей власти. Но изменения, произошедшие за последние два десятка лет, сформировали иные ценности и иной подход к профессии даже в Беларуси, где сохранился феномен так называемых «государственных» СМИ. Представления об этих новых ценностях вообще, и о профессиональной этике в журналистском сообществе в частности, пока весьма расплывчаты и нуждаются в истолковании, а сама этика — в изучении.

Впрочем, проблема изучения тоже сложна, и к ней существуют разные подходы. В США, например, используются два: первый — совмещение курса журналистской этики и курса законодательства о СМИ; второй — включение этических вопросов во все дисциплины, в практические задания для студентов-журналистов. В связи с этим многие американские учебники журналистики имеют разделы по этике. Это относится к таким предметам, как «Введение в журналистику», «Технология освещения новостей», «Репортаж» и другие.

## Почему это важно

Профессор журналистики Бостонского университета США Майкл Берлин считает (и его поддерживают многие коллеги), что «*полезно посвятить этике специальный курс, который включал бы вопросы истории, теории и практики и помог бы овладеть широкой информацией в данной области*».

Такого же мнения придерживается американский исследователь Эдмунд Ламбет, который на протяжении многих лет читает курс журналистской этики на факультете журналистики Миссурийского университета, а также выступает с лекциями перед преподавателями журналистики и журналистами различных стран на семинарах неправительственной организации «Форум свободы». По его мнению, этика более не считается второстепенной темой в рамках академических курсов и часто читается как отдельная дисциплина. «*Когда-то почитаемая отдельными действующими журналистами как проблема личного предпочтения или индивидуального стиля принятия решений, этичность поведения сегодня больше не является объектом небрежного отношения в большинстве редакций новостей и советах компаний. Бывшие когда-то редкими одиночками, академические и профессиональные специалисты по журналистской этике если и не приветствуются повсеместно, то стали своими в университетах и редакциях*», — пишет Ламбет.

Нельзя не сказать и о том, что роль средств массовой информации не сводится только к распространению новостей и организации их всеобщей доступности. Очень часто новости несут с собой стрессы, неудовлетворенность, боль, разочарование, которые сопровождаются чувством собственного бессилия. Вот что об этом пишет Майкл Киркхорн: «*Наши газеты, радио и телестанции регулярно, пунктуально и монотонно передают перечни опасностей, катастроф, проступков и разрушений. Беспомощно притягиваемые к любой драматической ситуации, журналисты, эти безумные пособники мысли, аккумулируют всякие дурные идеи. Они распространяют понятия, которые они сами плохо понимают, отвергая те из них, которые, как им кажется, другие не поймут или не примут. Озабоченные деятельностью отдельных личностей, занимающих официальное положение, журналисты игнорируют фон. Они видят паука, но не паутину. Сами глубоко прагматичные, они не доверяют мечтателям, визионерам и утопистам. Они не указывают нам объезд, но старательно освещают наши дорожные происшествия*».

Учитывать фон, на котором происходят события, — одна из задач журналистской этики, которая значительно усложняет основные профессиональные правила.

Все с этим связанное нуждается в глубоком изучении, для чего должна быть предназначена самостоятельная учебная дисциплина. Неудивительно, что отдельные курсы профессиональной этики есть не только на Западе, но и в большинстве стран на постсоветском пространстве.

Изданное пособие призвано помочь осознать характер нравственных ценностей той профессиональной группы, к которой мы относимся и которая осуществляет свою деятельность в реальных (в данном случае — белорусских) условиях, и в соответствии с этими ценностями сформировать свою профессиональную позицию, способность к самостоятельной нравственной ориентации.

В условиях Беларуси, с ее делением на «государственные» и «негосударственные» СМИ и почти полным отсутствием устоявшихся представлений о профессиональной этике, это весьма непросто. Ведь разброс мнений среди коллег,



Сергей Крижановский, Украина

всех международных встречах издатели, особенно соцстран, упрекают нас, почему этой книги нет на родине Быкова. На последней ММКВЯ эти упреки, к счастью, как нам казалось, были уже сняты нами. Маловерам показывалась подписная корректура тома.

Решение тов. Севрука В. Н. объективно носит антисоветский, противозаконный, реакционный характер. Об этом недоумии уже знает весь интеллектуальный Минск, значит, узнает и весь мир.

Дорогой Михаил Васильевич, спасите, пожалуйста, значительную духовную ценность от средневекового костра, а нашу издательскую практику от позора. Повесть талантлива, полностью отвечает духу соцреализма, если его понимать здраво, а не вульгарно-социологически.

С искренним уважением и верой в победу разума,

директор издательства
"Мастацкая літаратура"
*Дубенецкий Михаил Федорович*».

І хоць Быкаў пасля пісаў: «Бедны і наіўны, нягледзячы на свой партыйны вопыт, Міхал Хведаравіч, на што ён спадзяваўся!» — але, мусіць, менавіта гэтая тэлеграма і выратавала аповесць. Зрэшты, заўважым, што станоўчае рашэнне было прынята толькі пасля звароту ў ЦК КПСС загадчыкаў двух аддзелаў — прапаганды і культуры:

«*30 ноября 1981 г.*
*Секретно*

В белорусском издательстве "Мастацкая літаратура" готовится к изданию Собрание сочинений лауреата Государственной премии СССР писателя В. Быкова. Издательство и автор включили в Собрание сочинений повесть "Мертвым не больно".

Эта повесть была опубликована в 1966 году только в журналах "Маладосць" и "Новый мир" и вызвала обоснованную критику со стороны литературной общественности за дегероизацию событий Великой Отечественной войны и другие серьезные идейные просчеты.

Отделы пропаганды и культуры ЦК КПСС докладывали по этому вопросу ЦК КПСС (записка от 15.IV.1966 г.). В записке отделов отмечалось, что в повести с неверных идейных позиций отображены события Великой Отечественной войны. Она заполнена желчными описаниями беззаконий и преступлений, якобы чинившихся в рядах действующей Советской Армии.

В соответствии с поручением отделов ЦК КПСС газеты "Правда" и "Красная звезда" опубликовали статьи, в которых повесть расценивалась как творческая неудача автора. Аналогичные критические статьи были в белорусской партийной и литературной печати. С 1966 г. данное произведение отдельным изданием не выходило.

Учитывая это обстоятельство, а также принимая во внимание, что В. Быков в своем творчестве в настоящее время не допускает подобного рода ошибки, полагали бы возможным поручить ЦК КП Белоруссии совместно с Госкомиздатом СССР рассмотреть вопрос о целесообразности включения повести "Мертвым не больно" в Собрание сочинений писателя, имея в виду вышеуказанные критические замечания.

Просим согласия.

Зав. Отделом
пропаганды ЦК КПСС
*Е. Тяжельников*
Зав. Отделом
культуры ЦК КПСС
*В. Шауро*».

Адзначым таксама, што згоды аўтары ліста прасілі адразу ў васьмі сакратароў ЦК КПСС: М. Зімяніна, М. Суслава, А. Кірычэнкі, І. Капітонава, Б. Панамарова, К. Русакова, У. Далгіх і К. Чарненкі. І згода была атрымана, што, зрэшты, не перашкодзіла пасля з'явіцца яшчэ адной забароне, а праз нейкі час і новаму дазволу на друкаванне «Мёртвым не баліць»… Толькі ў лістападзе 1982-га Міхаіл Дубянецкі падпісаў да друку 4-ы том. Аднак дзеля гэтага Быкаў быў вымушаны пагадзіцца на новыя купюры, якіх патрабавала ад яго цэнзура.

Менавіта ў такім скалечаным выглядзе, з больш чым 200 скарачэннямі, аповесць і друкавалася да гэтага часу. Сам Быкаў неаднойчы выказваў шкадаванне, што не ўдалося зберагчы першапачатковую рэдакцыю твора, аднак насамрэч захаваўся не толькі непадцэнзурны варыянт «Мёртвым не баліць» (ён знаходзіцца на пастаянным захоўванні ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва), але і яго чарнавая рэдакцыя, цудам знойдзеная малодшым сынам пісьменніка Васілём Быкавым у той кватэры, дзе некалі жыў Васіль Уладзіміравіч у Гродне (вясной жа гэтага года былі адшуканыя нават і нататнікі з накідамі да аповесці). І вось нарэшце праз паўстагоддзя пасля першай публікацыі з'явілася непадцэнзурнае выданне аднаго з самых знакамітых твораў Быкава. Безумоўна, меў рацыю рэдактар «Нового мира» Аляксандр Твардоўскі, калі ў самы цяжкі для Васіля Быкава час прарочa напісаў яму ў паштоўцы: «Все минется, а правда останется». Але якімі будуць наступныя перавыданні «Мёртвым не баліць»? Паводле Быкава ці паводле той рэдакцыі, якая была падрыхтавана «под замутненным оком Главлита»? Апытанні сведчаць: Васіль Быкаў патрэбны чытачу, ён адзін з самых запатрабаваных беларускіх пісьменнікаў. Але ці патрэбны чытачу і выдаўцам непадцэнзурны Быкаў? Адказ на гэтае пытанне дасць, мусіць, толькі час.



# Дуня Миятович:

## *«Практика наказания в Беларуси журналистов за работу без аккредитации должна быть прекращена»*

Необходимо прекратить практику наказания журналистов в Беларуси за работу без аккредитации. Об этом говорится в распространенном 8 октября заявлении представителя ОБСЕ по вопросам свободы СМИ Дуни Миятович.

«Аккредитация не может рассматриваться как разрешение на работу, — заявила Миятович. — Фрилансеры должны иметь возможность работать так же свободно, как журналисты зарегистрированных СМИ».

Миятович вновь призвала белорусские власти пересмотреть существующие требования об обязательной аккредитации, а также предложила помощь своего офиса в подготовке реформ для белорусского законодательства о СМИ, сообщает БелаПАН.

